*Пра ўражанні Алеся Бяляцкага ад сустрэчы з Дзяржаўным сакратарам ЗША Майкам Пампеа чытайце ў наступным нумары.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 10 (4468)**

4 лютага 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЕБУС

## Почему их не позвали на встречу с Майком Помпео?

На встрече с госсекретарем США присутствовали только белорусские правозащитники.

А почему проигнорировали лидеров политических партий, тех, кто, например, собрался в президенты?

– *Версий, почему белорусских политиков не позвали на разговор с Помпео, может быть несколько*, – анализирует ситуацию экс-глава Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько. – *Основная – это то, что хрупкость белорусско-американских отношений не позволяет сегодня делать слишком резкие шаги. Все очень осторожны, и американцы тоже. Думаю, есть мысль несильно раздражать белорусские власти.*

Председатель партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» **Сергей Черечень** говорит, что если бы и позвали на встречу политиков, то вряд ли разговор получился бы эффективным.

– *Помпео не так много времени провел в Минске*, – делится своими мыслями Сергей Черечень. – *Подобные встречи во многом носят формальный характер, они проходят очень быстро, буквально пару минут. И когда очень насыщенный график визита и целесообразности в общении нет, то и не организуют эти встречи.*

Председатель Белорусской социал-демократической партии (Грамада) **Игорь Борисов** говорит, что некоторые политики просили о встрече с Майком Помпео.

– *Думаю, американцы решили действовать осторожно, чтобы сразу на старте не испортить и без того непростые отношения с белорусской стороной, которые только-только вроде бы начали налаживаться,* – высказывает свое мнение Игорь Борисов. – *И если раньше речь шла о том, что, например, возвращение посла США в Беларусь – длительный процесс, то сейчас Помпео сказал, что этот вопрос будет решен в течение ближайших месяцев.*

*Но было коллективное обращение лидеров политических партий к Майку Помпео, которое подписали председатели шести партий. И такие обращения никуда не пропадают, даже если и не находятся в зоне публичной дискуссии…*

**Марина КОКТЫШ.**

БЛІЦ

*Дзясяткі палітычных і грамадскіх актывістаў пакараны судамі за ўдзел у масавых акцыях супраць так званай паглыбленай інтэграцыі з Расіяй, у абарону Незалежнасці Беларусі. Маўляў, яны не былі дазволены ўладамі.*

*А ці ж гэта не абсурд: каб выказаць патрыятычныя пачуцці, трэба ісці на паклон да чыноўнікаў? Што ж гэта за дзяржава, якая ўсталявала такія законы, якія не дазваляюць грамадзянам без волі чыноўнікаў свабодна выйсці на вуліцу ці плошчу і правесці публічнае мерапрыемства ў абарону інтарэсаў Радзімы?*

*“Народная Воля” звярнулася да шэрагу дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з наступным пытаннем:*

# Вы будзеце ініцыіраваць перагляд парламентам закона аб масавых акцыях?

### Андрэй САВІНЫХ, старшыня Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:

– Вы прывялі вельмі дрэнны прыклад. Як мне ўяўляецца, канкрэтна гэтыя маніфестацыі былі чым заўгодна, толькі не спробай абараніць Бацькаўшчыну. Я мяркую, што рэальная палітычная праца куды больш шматгранная і складаная, чым банальныя вулічныя маніфестацыі.

Змяненне закона – гэта адказная справа, якая апраўдана толькі пры наяўнасці вельмі сур’ёзных падстаў. Аналагічныя заканадаўчыя нормы існуюць практычна ва ўсіх краінах свету.

Пакуль я не бачу якіх-небудзь рэальных падстаў для змены існуючага заканадаўства.

### Ігар МАРЗАЛЮК, старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы:

– Без каментарыяў… Паглядзім, жыццё пакажа…

### Марыя ВАСІЛЕВІЧ, член Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі:

– Думаю, лепш накіраваць ваша пытанне профільным камісіям, якія займаюцца гэтым законам. Я член камісіі па правах чалавека і СМІ... Калі хочаце больш шырокі каментарый, звяжыцеся крыху пазней, калі вам зручна, праз паўгадзіны. *(Аднак і праз паўгадзіны, і праз гадзіну тэлефон дэпутата Васілевіч быў недаступны. – **Рэд.**)*

### Лілія КІР’ЯК, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы:

– Закон аб масавых акцыях мы пакуль не абмяркоўвалі, і ці ёсць у гэтым неабходнасць? Напрыклад, ніхто з гэтымі пытаннямі ў маёй акрузе да мяне не звяртаўся…

Цяпер на разглядзе ў дэпутатаў знаходзяцца больш важныя законапраекты. Кодэкс аб адукацыі, напрыклад (наша камісія давала заключэнне наконт гэтага законапраекта). Разглядаюцца змены ў такія важныя законы, як “Аб ахове здароўя”, “Аб лекавых сродках”, “Аб правах інвалідаў і сацыяльнай інтэграцыі”. Апошні закон, на мой погляд, вельмі актуальны, важны, таму што большасць зваротаў, якія я атрымліваю ад выбаршчыкаў сваёй акругі, тычацца менавіта праблем інвалідаў. І наша камісія вельмі цесна супрацоўнічае з камісіяй па працы і сацыяльных пытаннях, дзе гэты законапраект знаходзіцца на разглядзе. Мы паўдзельнічалі ў шэрагу сустрэч, правялі “круглы стол” з удзелам намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандрам Румакам. Вось гэтыя пытанні хвалююць нашу камісію…

### Алег ГАЙДУКЕВІЧ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:

– Я не люблю мітынгі і лічу, што чым менш мітынгаў, тым лепш краіна развіваецца. Я супраць рэвалюцый. Добрых рэвалюцый не бывае, таму што гэта заўсёды гвалт. Тыя, хто рэвалюцыю робіць, потым жывуць добра, а просты народ жыве яшчэ горш.

Я лічу, што мы павінны зрабіць так, каб лёс нашай краіны ніколі не вырашаўся на вуліцах. І як дэпутат буду працаваць над тым, каб ствараць такія ўмовы для жыцця, каб у людзей нават жадання не ўзнікала выйсці на вулічную акцыю, а не працаваць над тым, як ствараць умовы, каб людзі блукалі па вуліцах з палітычнымі лозунгамі.

### Іван МАМАЙКА, член Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы:

– Ці трэба мяняць гэты закон? Беларусы ставяцца да масавых акцый па-рознаму. Адны кажуць, што такія акцыі людзям замінаюць, другія, наадварот, прытрымліваюцца меркавання, што маюць права выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. Я думаю, што павінна быць ініцыятыва з боку грамадзян, зварот ад выбаршчыкаў да сваіх дэпутатаў, і тады парламентарыі будуць вызначацца, ці трэба ўносіць нейкія змены ў Закон аб масавых мерапрыемствах або не, магчыма, трэба будзе абмеркаваць гэтае пытанне з адміністрацыйнымі органамі, якія займаюцца забеспячэннем аховы грамадскага парадку, зладзіць грамадскае абмеркаванне… Калі будзе зварот да дэпутатаў, тады і будзе разглядацца гэтае пытанне.

### Генадзь ДАВЫДЗЬКА, старшыня Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі:

– Перагляд закона у якой рэдакцыі? Тое, што тычыцца акцый, якія вы ўзгадалі, то тут – адна правакацыя. Яны вырашылі: ім вядома, што існуе пагроза суверэнітэту, але ацаніце з пункту гледжання сённяшняга дня іх выхады на несанкцыянаваныя акцыі... Закон – парушылі.

Заканадаўства, безумоўна, недасканалае. Але няма ідэалаў, нават у самых старых, так званых дэмакратычных краінах... Мне шкада тых людзей, што выходзілі на вуліцы, я ўпэўнены, што гэта добрыя людзі, яны любяць Радзіму, але не трэба было рабіць так. У нас свабода слова. Можна друкаваць сваю думку, збіраць нейкія подпісы, зрабіць дакумент, але выходзіць на несанкцыянаваныя акцыі і дэманстраваць што? Гарант нашай незалежнасці – прэзідэнт. Калі б яны выйшлі з партрэтамі Лукашэнкі, гэта было б вельмі справядліва, але нават і тады трэба было б разглядаць, наколькі яны парушалі ці не парушалі закон. Я за свабоду, але існуе ісціна: свабода кожнага чалавека канчаецца там, дзе пачынаецца свабода другога чалавека. Тут не трэба дэмагогіі. Вядома, мы будзем удасканальваць наша заканадаўства. Але і сёння ёсць цывілізаваныя, у межах закона магчымасці дэманстраваць свой пункт гледжання.

**Апытвала Марыя ЭЙСМАНТ.**

### *АД РЭДАКЦЫІ*

Шаноўныя чытачы!

Як вы заўважылі, “Народная Воля” паставіла пытанне рубам: што ж гэта за дзяржава, якая ўсталявала такія законы, якія не дазваляюць грамадзянам без волі чыноўнікаў свабодна выйсці на вуліцу ці плошчу і правесці публічнае мерапрыемства ў абарону інтарэсаў Радзімы?

Мяркуючы па адказах дэпутатаў, да якіх звярнулася газета, ніхто з іх не намераны ініцыіраваць унясенне дэмакратычных змен у існуючы закон аб масавых акцыях. Вось такія людзі трапілі ў парламент…

Што ж, наступіць час, калі свае слова скажа народ.

ПАМЯТЬ

## Главный рыцарь белорусского театра



Завтра, 5 февраля, исполнилось бы 90 лет со дня рождения народного артиста **Ростислава Ивановича Янковского**, блистательного актера, мудрого и бесконечно обаятельного человека. Свою огромную творческую жизнь он прожил – нет, посвятил! – Национальному академическому драматическому театру имени Максима Горького. И, пожалуй, самый плодотворный его период пришелся на время, когда этим белорусским театром руководил режиссер, народный артист **Борис Иванович Луценко**. Вместе мастера создали замечательные спектакли: «Макбет» и «Гамлет» Шекспира, «Братья Моор» Шиллера, «Христос и Антихрист» Мережковского, «Перед заходом солнца» Гауптмана, «Баня» Маяковского, где в роли Оптимистенко Ростислав Иванович показал владение еще и искрометным комедийным даром. А также «Возвращение в Хатынь» Алеся Адамовича и «В сумерках» Алексея Дударева.

Мы попросили Бориса Ивановича вспомнить о тех прекрасных годах, полных творческих тревог, взаимной любви и уважения.

*(Окончание на 6-й стр.)*

БЕЛАРУСЬ – ЛІТВА

## Месца сустрэчы – Рымдзюны

Лінас Лінкявічус перасек граніцу на аўтамабілі і прыбыў у Рымдзюны, дзе яго чакаў Уладзімір Макей. Невыпадкова месцам сустрэчы міністраў дзвюх краін быў выбраны невялікі аграгарадок Рымдзюны. Яго можна лічыць узорным прыкладам добрасуседства, дружалюбнага пражывання беларусаў і этнічных літоўцаў. У гэтым мястэчку і суседніх Гервятах пражываюць каля тысячы этнічных літоўцаў. *“А ўсяго ў Беларусі літоўская дыяспара налічвае больш за 5 тысяч чалавек,* – звярнуў увагу беларускі міністр. – *Дзяржаўная палітыка Беларусі накіравана на тое, каб захаваць мір, спакой і стабільнасць у нашым грамадстве. І не дапусціць ніякіх міжканфесійных, міжэтнічных канфліктаў”.*

За сваю доўгую гісторыю, да таго як стаць часткай Беларусі, Рымдзюны знаходзіліся ў складзе такіх дзяржаў, як Расія, Польшча, Германія, Літва. Таму тут жывуць людзі розных нацыянальнасцяў. Шматмоўе і полікультурнасць сталі адметнымі рысамі рэгіёна.

У час знаходжання ў Рымдзюнах Уладзімір Макей і Лінас Лінкявічус не абмежаваліся толькі культурнай праграмай, але і змаглі вырашыць важнае для аграгарадка сацыяльнае пытанне – аб аказанні падтрымкі дзіцячаму садку з літоўскай мовай навучання.

Кіраўнікі МЗС дзвюх краін наведалі адзін з самых прыгожых каталіцкіх храмаў Беларусі – Траецкі касцёл у Гервятах. Лінас Лінкявічус з цікавасцю даведаўся, што гэты храм на працягу ўсяго свайго існавання ніколі не быў закрыты, працягваў прымаць прыхаджан.

Рабочы візіт Лінаса Лінкявічуса прадоўжыцца сёння, 4 лютага, сустрэчай з Уладзімірам Макеем у Міністэрстве замежных спраў у Мінску і сумеснай заявай кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў для сродкаў масавай інфармацыі.

*(Паводле БЕЛТА.)*

СЕКРЕТЫ КРАСОТЫ

## Наталья НОВОЖИЛОВА: «С возрастом можно договориться»

**Наталья Новожилова** – женщина-легенда, которая внесла огромный вклад в развитие здорового образа жизни в нашей стране.



В начале 1990-х годов мы впервые услышали от нее диковинное тогда слово «фитнес». Телеуроки Натальи Новожиловой на Белорусском ТВ стали не просто зарядкой, а волной свежего воздуха, первым настоящим спортивным шоу. Буквально всю страну они вдохновили на занятия спортом, приобщили к здоровому образу жизни.

В эти же годы Наталья Николаевна создала первый на постсоветском пространстве фитнес-клуб «Багира», вывела фитнес-движение на новый уровень.

И сегодня она продолжает удивлять и вдохновлять. Давать не только уроки фитнеса, но и уроки жизни. Наталья Новожилова – председатель международного общественного объединения «Федерация фитнеса», мастер спорта по спортивной гимнастике, чемпионка СССР, инструктор международного класса категории «Elite», создатель Национальной школы фитнес-тренеров. Она является также официальным представителем фитнес-программ университета Reebok и Nike (USA). Проводит Всебелорусские конференции по программе «За здоровый образ жизни», избрана президентом ротари-клуба «Минск-Ратуша». Награждена Почетной грамотой Президента Республики Беларусь «За значительный вклад в пропаганду здорового образа жизни».

*(Окончание на 7-й стр.)*




УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

## Хватани свежего воздуха – и возвращай долги!

Александр Лукашенко приказал руководителям агропромышленных предприятий Витебщины эффективно работать. Он пригрозил, что им никто не спишет долги, их нужно возвращать государству.

«Речи о списании долгов быть не может. Долг платежом красен. Верните долги! Речь может идти только о том, что мы вам дадим какую-то отдушину, чтобы вы могли хватануть свежего воздуха», – сказал Александр Лукашенко.

**Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

ВІЗІТ

## Будуць інвестыцыі?

Прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Сума Чакрабарці наведае Беларусь з афіцыйным візітам 6–7 лютага.

У 2019 годзе ЕБРР устанавіў новы рэкорд у сваёй дзейнасці ў Беларусі: банк уклаў больш за 390 мільёнаў еўра ў 24 праекты ў прыватным і дзяржаўным сектарах.

З пачатку сваёй дзейнасці ў Беларусі ў 1992 годзе банк інвесціраваў амаль 2,9 мільярда еўра ў 130 праектаў у розных сектарах эканомікі краіны.

СУД

# Укрощение «боярыни Морозовой» из Кричева

## Бывшая заведующая «передовым» детским садом признана виновной в коррупции и хищении госимущества

30 января суд Чериковского района под председательством Александра Кравченко поставил точку в громком уголовном деле бывшей заведующей детским садом №19 г.Кричева Аллы Пастуховой. Она признана виновной в превышении служебных полномочий из корыстных интересов, в злоупотреблении властью, в хищении государственного имущества, а также в покушении на преступление (ч.2 ст.426, ч.2 ст.424, ч.1 ст.210, ч.1 ст.14 Уголовного кодекса Республики Беларусь).

По совокупности статей суд приговорил Пастухову к 2 годам и 6 месяцам колонии общего режима и штрафу в 1350 рублей (50 базовых величин). Осужденной запрещено занимать руководящие и организационно-хозяйственные должности в течение трех лет. В приговоре также указано, что драгоценности и вещи, изъятые у Пастуховой во время обысков на даче и дома, оставлены под арестом до полного погашения штрафа. Срок нахождения в СИЗО и под домашним арестом будет засчитан в срок отбытия наказания (в СИЗО – день за день, под домашним арестом – два дня за день). В течение 10 дней у нее есть возможность подать апелляцию в Могилевский областной суд. После оглашения приговора А.Пастухова была взята под стражу.

28 января гособвинитель, заместитель прокурора Кричевского района **Николай Розанцев**, учитывая смягчающие и отягчающие обстоятельства, просил приговорить обвиняемую к 4 годам лишения свободы, к 13.500 рублям штрафа и лишению права на 5 лет занимать руководящие и организационно-хозяйственные должности. 16 потерпевших просьбу гособвинителя поддержали целиком и полностью.

Адвокат Пастуховой просил суд оправдать обвиняемую в связи с отсутствием в ее действиях состава преступления.

### Гособвинитель: «Разоблачить Пастухову удалось благодаря смелости подчиненных ей женщин»

Во время судебных слушаний было установлено, что Пастухова, являясь должностным лицом, совершила действия, нанесшие вред правам граждан и интересам государства на общую сумму 10.003 рубля (470 БВ). В частности, с 2015 по 2018 год через делопроизводителя организовала сбор средств из надбавок к тарифным ставкам, премий и материальной помощи работников детсада. Незаконно собранные деньги использовала в личных целях.

Пастухова давала указания подчиненным на списание стройматериалов (цемента, краски, шпатлевки), предназначенных для ремонта детсада, которые впоследствии присваивала. Похищенное обнаружено во время обыска на ее даче. Стройматериалы, обнаруженные в подвале детсада, по мнению следствия и суда, были приготовлены для дальнейшего похищения.

По указанию Пастуховой некоторые подчиненные регулярно выезжали в рабочее время к ее престарелому отцу, отвозили продукты, носили воду, переносили брикет, выполняли другие работы по хозяйству. Оказывали помощь по ремонту на квартире и даче обвиняемой.

Также установлено, что одна из подчиненных по указанию Пастуховой возила ее родственнице (потерпевшие называли дочь) в Могилев продукты и деньги.

При этом отсутствующим фактически на работе в табелях учета рабочего исправно рисовали «восьмерки».

Потерпевшие и ряд свидетелей утверждали, что повара по указанию Пастуховой готовили ей различные блюда.

В суде также выяснилось, что при заключении с ней контракта обвиняемая подписывала обязательство о недопущении коррупционных проявлений в своей работе.

Гособвинитель в своем выступлении подчеркнул, что «разоблачить Пастухову удалось благодаря смелости подчиненных ей женщин».



### «Так все делают»

В последнем слове Пастухова категорически отвергла предъявленные обвинения. Она отметила, что «дом там, где твое сердце, а мое сердце находится в детсаде №19». Рассказала о своих заслугах за 45 лет деятельности на педагогической ниве, о 35 почетных грамотах и благодарностях, в том числе от Президента, о признании ее в 2014 году «Человеком года» Кричева, успешной работе руководителем микрозоны самоуправления «Комсомольская».

«Сила и доброта – мой стиль управления», – подчеркнула она. При этом призналась, что допускала ошибки в кадровой работе. Выказала обиду на автора, что он написал в статье о найденной у нее во время обыска «крупной сумме долларов», которых на самом деле не было, «даже рубля». Досталось и следователям, которые, по ее мнению, оказывали психологическое давление на нее, заставляли признать вину и советовали обратиться за помилованием к Лукашенко. Давление, по ее словам, оказывалось и на подчиненных во время допросов.

Сбор средств она объясняла тем обстоятельством, что выделяемых отделом образования средств на поддержание имиджа «передового сада» не хватало. Ей приходилось нести самой определенные расходы. По ее словам, делопроизводитель предложила ей собирать деньги с подчиненных, потому что «так все делают». Наживаться она не думала, «принимала столько денежных средств», сколько вкладывала своих.

В конце своего выступления она сказала, что переживает по поводу смерти бывшей подчиненной Натальи Ельцовой, «близкого ей человека», который «хотел ее защитить», и не понимает, почему ее не допросили по факту ее гибели.

Адвокат поддержал позицию обвиняемой, подчеркнув, что следователи подводили показания потерпевших и свидетелей к нужному им результату. По его мнению, доказательства вины Пастуховой сомнительны. Адвокат попросил суд оправдать подзащитную.

Пастухова свою вину не признала «целиком и полностью» и отказалась добровольно выплатить предъявленный ей ущерб.

### Безнаказанность породила вседозволенность

Сергей Скачков, один из свидетелей по делу, который и придумал для обвиняемой прозвище «боярыня Морозова», рассказал суду, что, работая сторожем, столкнулся с незаконными требованиями заведующей по выполнению работ, не входящих в его прямые обязанности, с нездоровой обстановкой в коллективе. Жалобы в отдел образования не возымели никакого действия: «Никто из чиновников с коллективом так и не встретился, не пообщался. Получается, что такое положение дел в данном учреждении начальство устраивает». Приходил он на прием и к прокурору (на тот момент) Н.Розанцеву, на что был ответ: «Разберемся».

Всего в РОО было направлено не менее четырех анонимок, после чего в садик приезжала комиссия, проводилось собрание. Однако это обстоятельство не только не испугало заведующую, а, наоборот, разозлило. Одна из бывших подчиненных Пастуховой рассказала в суде, что после этого та начала «прессовать коллектив», подчеркивая: «Я буду и дальше работать, а вот вам надо подумать».

Другая бывшая подчиненная Пастуховой, выезжавшая с коллегами по ее указанию в рабочее время на покраску дачи, рассказала, что их в это время застала начальник РОО **Дина Шамро**, которая тут же предупредила заведующую: «Алла Васильевна, знаете, это ведь коррупция».

62-летнюю А.Пастухову задержали 27 марта 2019 года на рабочем месте. Прокурор Кричевского района **Леонид Палевич**, объясняя читателям местной газеты причины возбуждения уголовного дела и задержания заведующей детсадом, писал, что «чаша людского терпения переполнилась».

До 10 октября она находилась в Могилевском СИЗО, потом меру пресечения заменили на домашний арест.

Увидев на первом заседании 16 декабря 2019 года в зале суда журналистов, Пастухова потребовала «удалить желтую прессу» и заявила: «Они еще ответят за то, что написали». Подобным образом вели себя в кулуарах суда дочь и муж обвиняемой.

Во время судебных заседаний обвиняемая вела себя вызывающе, по-хамски, чем не раз вынуждала судью и гособвинителя делать ей предупреждения о ненадлежащем поведении. Однажды судья, раздосадованный поведением обвиняемой, произнес: «Как вы себя ведете, Пастухова, если есть суд, а если бы его не было?» Успокаивать подзащитную приходилось и ее адвокатам, которых, к слову, было двое.

### Из досье Пастуховой

Алла Пастухова является представителем довольно влиятельного кричевского клана. Ее мать в советское время работала главным бухгалтером местного банка. Родной брат – Геннадий Добрусев – был директором спортивной школы, директором филиала торговой сети «Омега», начальником почты. Жена брата занимала должность начальника отдела образования горисполкома. Известно, что Добрусевы в начале 2000-х годов были ограблены местной бандой Потапенко–Князьковых, наводившей в то время ужас на состоятельных кричевлян.

А.Пастухова руководила детсадом с 2002 года. После присвоения в 2014 году звания «Человек года» на Доске почета появился ее портрет. Состояла в объединении «Белая Русь», регулярно участвовала в работе участковых избирательных комиссий, в последние годы – председателем.

В 1985 году была награждена почетной грамотой «за коммунистическое образование подрастающего поколения».

Подчиненные говорят о своем бывшем руководителе как о человеке властном, жестком, требовательном. Многие боялись ее психологического давления, предвзятого отношения, угроз непродления контракта.

### Тело бывшей подчиненной нашли в реке

Вскоре после задержания Пастуховой, 8 апреля 2019 года, в реке Сож нашли тело 41-летней Натальи Ельцовой, работавшей в саду дефектологом. В доме утонувшей женщины была найдена предсмертная записка. Тело 78-летней матери Н.Ельцовой, которая, как говорили, бросилась в Сож спасать дочь, не найдено до сих пор.

Подчиненные признавались, что «Наталья всегда панически боялась Пастухову, боялась очной ставки с Пастуховой, пыталась выгородить ее в отличие от остальных, может, потому, что по просьбе заведующей собирала некоторые суммы с премий».

Следственный комитет, проводивший проверку по факту обнаружения тела Ельцовой, отмечал, что причинно-следственной связи с делом Пастуховой не установлено.

### Коррупционная карусель

В Кричеве уже после вступления в силу в 2015 году нового закона «о борьбе с коррупцией» были осуждены за коррупционные преступления председатель сельхозпредприятия «Молятичи-АГРО» **Александр Радовский**, директор коммунального предприятия «Водоканал» **Юрий Рыбчинский**, исполняющая обязанности главного бухгалтера агроколледжа **Юлия Никитенко**, директор центра творчества детей и молодежи «Крэчут» **Лолита Сидорова** и ее заместитель **Ольга Михно**. Следует отметить, что наказания за выявленные преступления были мягкими – как правило, штрафы или приговоры с отсрочкой, осужденные неплохо трудоустраивались. В местных госСМИ об этих судебных процессах не было написано ни строчки.

Бывший генеральный директор ОАО «Кричевцементношифер» **Леонид Скоцкий** в 2013 году «погорел» на поборах с премий подчиненных, получив 9 лет колонии усиленного режима.

### Эпилог, или Не обошлось без интриг

Председатель Могилевского областного суда направил дело Пастуховой в суд не Кричевского района, а Чериковского, чем ограничил возможности заинтересованной общественности присутствовать на заседаниях по причине приличного расстояния и расходов на поездки. По мнению потерпевших, сделано это было специально.

Местные госСМИ не заинтересовало рассмотрение коррупционного уголовного дела, хотя, согласно плану работы Кричевской районной комиссии по противодействию коррупции, главный редактор «Кричевской жизни» Татьяна Ивкина является ответственной за *«обеспечение в средствах массовой информации систематического освещения материалов о результатах работы правоохранительных органов по борьбе с коррупцией в целях создания атмосферы общественного неприятия коррупции во всех ее проявлениях»*.

Не появились на заседаниях суда ни члены этой самой антикоррупционной комиссии, ни члены «Белой Руси», БРСМ, ветеранской организации, которые в 2015 году пели дифирамбы новому закону «О борьбе с коррупцией».

Возможно, некоторые причины подобного поведения раскрыла сама обвиняемая, когда рассказала о кое-каких эпизодах своей деятельности на посту заведующей детсадом. В своем выступлении она рассказала о некоем плане выписки газет, который спускается из РОО и часто является «неподъемным для некоторых семей сотрудников», так как частенько муж и жена, работающие в разных организациях, вынуждены выписывать одинаковые газеты.

По словам Пастуховой в суде, однажды ей позвонили из райисполкома, неизвестно кто, голос был женский, и сказали прийти с людьми и стройматериалами в установленное время к СШ №3 с целью помочь сделать ремонт, туда же должен подойти Асмоловский (*заместитель председателя Кричевского исполкома.* – **Авт.**). Обвиняемая заявила, что не знала, законно это или нет, но выполнила просьбу «неизвестного голоса» (и в кулуарах суда она отказалась назвать фамилию звонившей), и трудилась в указанном месте вместе с коллегами в течение недели.

По словам бывшего следователя прокуратуры, руководителя правозащитного центра «Правовая помощь населению» (зарегистрирован в Украине) Олега Волчека, белорусскими регионами сегодня правят семейно-родственные кланы, поэтому власти дают обществу крайне дозированную информацию о коррупции, всю информацию фильтруют силовые структуры и «сливают» ее через подконтрольные СМИ. В период выборов властям надо показывать борьбу с коррупцией, хотя, как мне кажется, только незначительная часть населения в нее верит. Но проблема в том, что власти «бьют по хвостам», а на причины коррупции никто не обращает внимания.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Дзмітрый КАЗЛОЎ:

# «26 сутак адсядзеў, яшчэ 94 пакінулі «пра запас»

## Аршанскі блогер распавёў “Народнай Волі”, як у апошні час стаў незвычайным рэкардсменам.

За ўдзел у акцыях у падтрымку незалежнасці краіны Дзмітрыя Казлова судзілі некалькі разоў, агулам ён атрымаў 120 (!) сутак адміністрацыйнага арышту. Праўда, адсядзеў толькі 26 сутак, яшчэ 94 яму пакінулі “пра запас”.

– Некаторыя жывуць з ракам альбо СНІДам, а я – з “суткамі”, якія невядома калі яшчэ буду адседжваць, – кажа **Дзмітрый КАЗЛОЎ**. – Перспектыва, безумоўна, не самая вясёлая, бо кожны дзень цябе могуць кінуць за краты і немагчыма нешта дакладна планаваць. Ды і тэрмін застаўся немалы – больш за тры месяцы. Але думаю, што будуць адпраўляць за краты не адразу на 94 дні, а разаб’юць пакаранне на часткі.

Акрамя таго, мне далі яшчэ некалькі штрафаў – агулам 75 базавых велічынь (каля 1000 долараў), але іх налічылі за ранейшыя як быццам адміністрацыйныя парушэнні. За ўдзел у акцыях у падтрымку незалежнасці давалі толькі “суткі”.

**– А чаму такая лічба – 26 сутак? Гэта нейк патлумачылі?**

– Можна сказаць, мяне выгналі з Аршанскага ізалятара часовага ўтрымання. Сказалі, што быццам бы трэба дэзінфекцыю памяшкання праводзіць. Але трэба адзначыць, што ўмовы там лепшыя, чым у мінскім Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Я чытаў, што Паўлу Севярынцу, напрыклад, забаранялі на Акрэсціна мець паперу і ручку, а ў нас у гэтым плане ніякіх забарон не было.

Што тычыцца харчавання, дык яно было звычайнае для такіх устаноў. Давалі есці, каб не памерлі, але ж я разумеў, што не ў рэстаран трапіў.

**– З камеры вас вазілі на суды?**

– Праз некалькі дзён, як я трапіў у ізалятар, мне прынеслі спачатку два пратаколы, а затым яшчэ тры… Увогуле ж атрымалася шэсць пратаколаў за ўдзел у акцыях і заклікі да ўдзелу ў іх. Па ўсіх шасці судзілі, і я прысутнічаў на судах – вазілі туды пад канвоем.




Увогуле, на судах збіралася досыць невялікая кампанія – я, суддзя, сакратар суда і канвой. З грамадскасці пра іх ніхто не ведаў, і нават я даведваўся пра пачатак працэсу ў апошні момант. Сядзіш у камеры, прыходзіць дзяжурны і кажа: “Казлоў, збірайся на чарговы суд”.

**– Няўжо блогеры такія небяспечныя, што вам выпісалі аж чатыры месяцы арышту?**

–Улады цудоўна разумеюць, якая небяспека ідзе з нашага боку. Сёння на вуліцы XXI стагоддзе, дзяржаўныя СМІ, якія ў іх руках, мабыць, толькі яны самі іх і чытаюць. А моладзь ужо практычна ўся ў інтэрнэце. Таму і прэсуюць нас, стараюцца застрашыць, каб цішэй сябе паводзілі.

**– Колькі ў вас зараз падпісчыкаў?**

– На мой блог падпісаліся 8250 чалавек. Можа, гэтая лічба і не вельмі вялікая, але яна пастаянна расце. Усплёск адбыўся падчас майго ўдзелу ў парламенцкай кампаніі, бо я таксама вылучаў сваю кандыдатуру. За гэты час адразу 500–600 чалавек падпісаліся на блог і рэгулярна праглядалі яго.

**– У сярэднім колькі сюжэтаў вы робіце за месяц?**

– У залежнасці ад таго, ці адбываюцца нейкія падзеі ў краіне. Былі выпадкі, калі і пяць кароткіх стрымаў рабіў за дзень. Але звычайна ў дзень – адно-два відэа.

Хаця зараз, калі быў на “сутках” і заняты рознымі справамі, відэа з’яўлялася рэдка. Што называецца, збілі ўсё-такі тэмп.

**– Якая ваша асноўная тэматыка?**

– Трансляцыі з розных палітычных мерапрыемстваў – семінараў, пікетаў, мітынгаў. Акрамя таго, я адказваю на пытанні сваіх падпісчыкаў, нешта каменту. Таксама раблю інтэрв’ю, у якіх цікавыя людзі расказваюць гісторыі пра сябе ці каментуюць падзеі. Гэта, натуральна, займае значна больш часу. Хаця мая асноўная тэматыка – прамыя трансляцыі з месца палітычных падзей.

**– Гэта дае вам нейкі заробак?**

– Справа займае ўвесь мой час, таму на нейкую іншую працу яго проста не застаецца. А відэаблогерства – гэта маё і хобі, і лад жыцця, і сродак для існавання. І мой асноўны прыбытак – гэта данаты (ахвяраванні нераўнадушных падпісчыкаў).

**– Чым далей势 плануеце займацца?**

– Тым, чым і займаўся раней. Прынамсі адбыццё пакарання на “сутках” мае планы не змяніла.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВЕРДЫКТ

### Вячаслава Сіўчыка хочуць кінуць за краты

Учора грамадскага актывіста асудзілі на такі тэрмін за ўдзел у акцыі 8 снежня супраць інтэграцыі з Расіяй.

Суд па гэтай адміністрацыйнай справе пераносіўся некалькі разоў праз тое, што Сіўчык знаходзіўся за мяжой, але і ўчора яго таксама не было на пасяджэнні. Суддзя ўдакладніў, што тэрмін арышту будзе лічыцца з моманту затрымання актывіста.

Праваабаронцы паведамляюць, што наперадзе ў Вячаслава Сіўчыка яшчэ чатыры судовыя пасяджэнні, якія павінны адбыцца ў судзе Партызанскага раёна 4, 5, 6 і 7 лютага.

ПАД ГРАДУСАМ

### Пахаладае...

Сіноптыкі паведамляюць, што ў Беларусь стала паступаць больш халодная паветраная маса з Балтыкі.

5 лютага стане істотна халадней (да мінус 6 градусаў), а ў суботу ноччу месцамі – да -15ºC.

На большай частцы тэрыторыі краіны пройдзе снег, чакаецца галалёдзіца.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Свет такі і час такі: на панэлі – мужыкі

Начальнік Галоўнага ўпраўлення па наркакантролі і процідзеянні гандлю людзьмі Генадзь Казакевіч паведаміў, што “набірае абароты феномен мужчынскай прастытуцыі. Летась да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 100 чалавек!”

Калісьці, многа год назад
(А лік ідзе на тысячы),
Быў на зямлі матрыярхат.
З гісторыі не высечы,
Што ў старадаўнія вякі
Жанчыны ў сем’ях правілі.
Не панавалі мужыкі,
Не кіравалі справамі.
Хоць і дужэйшыя, але
Былі ў пакоры поўнасцю:
Куды “палова” іх пашле,
Туды ішлі з пакорнасцю.
І не пярэчылі яны,
Не падымалі ляманту,
Хоць не баяліся вайны,
Давалі рады маманту.
І гінулі мужчыны пад
Ударамі пудовымі,
Таму жанкі ў матрыярхат
Былі звычайна ўдовамі.
Куплялі жарсць на старане,
Парою са скандаламі.
І мужыкі былі ў цане,
Прабачце, з прычындаламі.
За шкуру, за кусок мясны
Маглі спатоліць цела ўсё.
Так “абслугоўвалі” яны,
Што і другім хацелася!
Цяпер як быццам іншы час.
Ды свет напоўнен чуткамі,
Што ўсё часцей мужчыны ў нас
Працуюць прастытуткамі.
Вялікі нават попыт ёсць
На тую катэгорыю
(З-за гэтага адчай і злосць
Ніяк я не агораю),
Бо мужыкі здрабнелі ўшчэнт,
Як кажуць, з кішкай тонкаю:
Хто дармаед, хто імпатэнт –
Не спіць з уласнай жонкаю.
Купляюць бедныя жанкі
Сабе “каханне” скорае…
А што паробіш? Свет такі –
Амаль Садом з Гамораю.

## Чарговы зборнік Алеся НЯЎВЕСЯ

Новы зборнік фельетонаў і баек Алеся Няўвеся мае назву “Чортаў тузін”. Чаму? Бо ён у нашага пастаяннага аўтара трынаццаты па ліку. Вось як аб гэтым піша сам сатырык:

Сваёй сатырай многа год
Я розных злыдняў тузаў,
І кніг (шматлікі мой прыплод!)
Набраўся чортаў тузін.
Трынаццаць – лічбу і чысло –
Звычайна ўсе баяцца:
Як быццам там таіцца зло.
А мне ўспадоб трынаццаць!
Трынаццаць – быццам перавал,
Як вышыня ў пустыні:
Таму мой сатырычны шал
Не тухне і не стыне.
Калі ж імпэт мой не аслаб,
Не атупелі клёпкі,
Я ўсё, сябры, рабіцьму, каб
Над “і” паставіць кропкі,
Са злыдняў скінуўшы штаны,
Дубцом сатыра секла,
Каб пры жыцці яшчэ яны
Папалі к чорту ў пекла!




Наклад зборніка ўсяго… 25 асобнікаў, бо крамы адмаўляюцца прадаваць кнігі Алеся Няўвеся. Але чытачы “Народнай Волі” маюць магчымасць пастаянна чытаць ягоныя творы: лепшыя з іх друкуюцца на старонках нашай газеты.

*«Народная Воля»*
*в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

РОЗДУМ

# Прышчэпка ад агрэсіўнасці?

У 1975 годзе часопіс “Юность” змясціў на сваіх старонках артыкул пад назвай “Эксперимент майора Ковалёвой”: начальнік спецшколы для непаўнагадовых правапарушальнікаў Кавалёва ў сваёй навучальна-выхаваўчай установе паставіла справу так, што і выкладчыкі, і выхавацелі вялі работу з выхаванцамі, не павышаючы голасу, без пагроз, без зняваг, нават папрокі і заўвагі – напаўголасу, без адмоўных эмоцый. Словам, са стасункаў былі выключаны праявы агрэсіўнасці. І, калі верыць аўтару артыкула, маральна-псіхалагічны клімат у асяроддзі выхаванцаў (а гэта кантынгент складаны: тут табе і малагадовыя бадзягі, і хуліганы, і рабаўнікі, а здараецца – і забойцы) прыкметна змяніўся да лепшага. Зніклі ўнутраныя канфлікты, нематываваныя ўсплёскі дзіцячай агрэсіі. Ураўнаважанасць стала нормай паводзін. На вялікі жаль, эксперымент так і застаўся эксперыментам, не знайшоўшы водгуку ні ў педагагічных методыках, ні ў цыркулярах дзяржаўнай сістэмы адукацыі.

Мне ж давялося на справе выкарыстоўваць “эфект Кавалёвай” ужо ў стасунках з дарослымі, калі працаваў на пасадзе інспектара міліцыі і выязджаў на сямейныя скандалы. Тыповая сітуацыя: біты посуд на падлозе, зламаныя табурэткі і два чалавекі ў стане непрымірымай варожасці… Са з’яўленнем міліцыі канфлікт успыхвае з новай сілай – кожны з бакоў імкнецца даказаць сваю праўду. Крык, лаянка, пагрозы! І вось уваходзіш, вітаешся, сядаеш за стол, прапануеш прысесці скандалістам і пачынаеш задаваць пытанні. І ўсё гэта ціхім голасам, ветліва, добразычліва. Яны здзіўлены: чакалі громаў, маланак, неадкладнай і справядлівай расправы, а тут… Але непрыкметна для сябе і самі зніжалі тон. Спачатку проста дзеля таго, каб чуць, пра што буду казаць я. Затым прыкметна супакойваліся, пачыналі ўспрымаць падзеі ўжо розумам, без эмоцый. Цяпер толькі і заставалася што накіроўваць пытаннямі і заўвагамі іхнюю думку на асэнсаванне ўласных учынкаў, паводзін. Адматаць, так бы мовіць, клубок варожасці да нуля. І ўсё! Як кажуць, інцыдэнт вычарпаны.

Атрымліваецца, метад Кавалёвай працуе! Але ці панацэя ён?



Нельга не ўлічваць адзін вельмі істотны нюанс: выхаванцы Кавалёвай усе 24 гадзіны знаходзіліся пад наглядам і ўплывам супрацоўнікаў навучальнай установы. Звычайны ж вучань бывае ў школе толькі чвэрць ад гэтага часу. Давайце выключым яшчэ восем гадзін – час сну. Застаецца дзесяць гадзін – час уплыву на падлетка сям’і, вуліцы, інтэрнэту, тэлевізара, кніг. Ці заўважаем мы, наколькі наша паўсядзённасць, наш побыт прасякнуты агрэсіяй? Я не схільны перабольшваць уплыў на падлетка інтэрнэту. Камп’ютарныя “стралялкі” ў большасці сваёй не выклікаюць у душы карыстальніка страху, нянавісці, жадання помсты – неад’емных крыніц агрэсіўнасці. Толькі азарт. Яны – тыя ж мадэрнізаваныя гульні “ў вайнушку”. Дзеці выдатна разумеюць віртуальнасць сітуацыі. Іншая справа – тэлевізар, што барабаніць у нашых кватэрах да глыбокай ночы. Там людзі і падзеі, якіх мы бачым у жыцці, там рэальныя карцінкі з рэальнага жыцця. Ім верыш. “Мы як пакутнікі трапім у рай, а яны, іншыя, проста здохнуць!” – гэта жарт такі на тэму ядзернай вайны кіраўніка саюзнай нам дзяржавы. А спектаклі салаўёвых-кісялёвых, дзе ўдзельнікі, перабіваючы адзін аднаго і пырскаючы слінай, накідваюцца на ахвяру, вельмі нагадваючы зграю здзічэлых сабак?!

Гэта толькі два прыклады, выхапленыя наўскідку з суцэльнага мора прапаганды “русского мира”. Беларускае тэлебачанне, на жаль, не саступае ў агрэсіўнасці тэлебачанню “старэйшага брата”. Тыя ж вобразы, тыя ж словы, той жа пошук ворагаў.

Разам з бацькамі сядзяць ля экрана і дзеці. Яны глядзяць, усмоктваюць інфармацыю, слухаюць бацькоўскія каментарыі. І добра яшчэ, калі бацькоўская мудрасць неяк нівеліруе ў душах дзяцей атрыманую порцыю агрэсіі. Ёсць людзі ды і сем’і, што самі жывуць агрэсіяй, яна подсілкоўвае іх, напаўняе жыццёвай сілай. Канфлікты на рабоце, сутычкі ў транспарце, знявагі ў краме – усё прыносіцца дадому, рэалізуецца ў сямейных скандалах, сведкамі, удзельнікамі, ахвярамі якіх становяцца дзеці. А раніцай яны ідуць у школу. Металашукальнікі рэагуюць на метал у партфелях, але яны не ў стане выявіць агрэсію ў душы.

У адрозненне ад дарослых, дзеці шчырыя ў сваіх пачуццях, асабліва вучні малодшых класаў. Агрэсія іх неадкладна выліваецца ў сарваныя ўрокі, распачатыя бойкі з аднагодкамі. У старэйшых класах усё адбываецца страшней…

Грамадства так і не атрымала адказ на пытанне, што ж сталася прычынай трагедыі ў Стаўбцоўскай СШ. Паспрабую даць варыянт адказу.

І загінуўшая настаўніца, і вучань прапагандавалі родную культуру, родную мову, беларускую, адрозную ад афіцыйнай, гісторыю. Былі, як гавораць, “нацыянальна свядомымі”. Прыгадаем, як кіраўнік нашай дзяржавы і падуладная яму чыноўная чэлядзь вымаўляюць гэтыя словы – з такім сарказмам, на які толькі здольны. Дадамо сюды і “русский мир”, што трактуе любую, акрамя рускай, праяву нацыянальнай свядомасці як фашызм. Магчыма, што, ідучы з нажом у школу, пятнаццацігадовы забойца ва ўяўленні сваім ішоў на подзвіг, здзяйсняў акт барацьбы з фашызмам. Тагачасны міністр Шуневіч, мяркуючы па яго рэакцыі на падзею, аддаў свае сімпатыі зусім не загінуўшым і іх родным… А гэта пазіцыя дзяржавы!

А што ж настаўнікі? Няшмат знойдзецца такіх, што здольны сваім вопытам, цярплівасцю і дабрынёй прытушыць полымя агрэсіі ў дзіцячых душах. Яны таксама ў большасці сваёй ужо сталі ахвярамі гэтай заразы. На агрэсіўнасць вучняў яны адказваюць настаўніцкай агрэсіяй. Крыкі да істэрычнасці, знявагі, пагрозы “адкруціць галаву шчанюку якомусьці”, муштра. Будзем шчырыя: ці ж гэта не ўлюбёныя метады нашай практычнай педагогікі? Вынікі яе знаходзяць адлюстраванне ў шэрагу адміністрацыйных і крымінальных матэрыялаў, у алкагольнай і наркатычнай залежнасці дзяцей. Як спыніць, перамагчы гэту навалу? Ці не было б больш карысці, калі б замест паставога міліцыянера і металашукальніка на парозе школы дзяцей сустракаў бы дынамік з запісам класічнай музыкі?

Але…

**М.НЕЎГЕНЬ, у мінулым інспектар па справах непаўнагадовых в.Гожа Гродзенскага райна.**

ВОЗМУТИТЕЛЬНО!

# Прописан – плати! А правильно ли это?

Обращаюсь к Вам не только от себя, а также от других родителей военнослужащих. Дело в том, что наши сыновья служат в армии, живут в казармах. Но они остались прописанными в наших квартирах. Такая же ситуация и с теми же нашими детьми, которые учатся в других городах и там же живут в общежитиях, на частных квартирах. Но они также прописаны в наших квартирах.

И проблема в том, что, поскольку они прописаны в родительских квартирах, на них начисляется плата за коммунальные услуги. Правда, Совет министров принял постановление, что плата за некоторые виды коммунальных услуг (за обращение с твердыми коммунальными отходами, холодное и горячее водоснабжение, водоотведение, газоснабжение), а также электроэнергию, потребляемую на работу лифта, не взимается, если «гражданин выехал из постоянного места жительства».

Но плата за техническое обслуживание лифта, санитарное содержание вспомогательных помещений, электроэнергию на освещение вспомогательных помещений и работу оборудования осталась прежняя. Так какое же отношение имеют к этим коммунальным услугам солдаты и студенты, которые служат и учатся далеко от родителей? Почему за липовые коммунальные услуги нам приходится платить? Можно представить, сколько незаконных денег присваивают структуры Министерства ЖКХ. Попросту – халявных денег. Так неужели об этой афере не знают в Совмине, Администрации президента, наконец в прокуратуре, Комитете госконтроля?

**Н.С.НАЗАРОВА, жительница Могилева.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Позор!

Уважаемая редакция газеты «Народная Воля»!

Как любитель спорта, и в частности хоккея, не могу быть равнодушным к тому позору, который преподносит всем болельщикам да и всей стране хоккейный клуб «Динамо-Минск». Похоже, у тренеров и спортсменов не все в порядке с совестью. Это же позорище, когда команда, считающаяся профессиональной, проигрывает подряд одиннадцать-двенадцать встреч! Уважающий себя главный тренер и его помощники давно должны были уйти в отставку. Но господин Вудкрофт только пыль в глаза пускает любителям хоккея. Читаешь его послематчевые интервью типа «… ну мы первый период хорошо играли, во втором спортсмены не выполнили установки тренеров… надо работать» – и печально становится. Результаты такой «работы» – налицо. Команды, способной играть с самоотдачей весь матч и выигрывать, нет. Для нее пять пропущенных шайб стало нормой. На одном из матчей на «Минск-Арене» болельщица вывесила плакат: «Если вам так нравится играть – продолжайте». Видимо, «Динамо» восприняло это буквально и продолжает…




Считаю, что «Динамо» не соответствует своей символике. Зубр – это животное, не терпящее поражений, это мощь, воля. А «Динамо»?

Удивляет еще и другое: команда, которая свыклась с поражениями, продолжает дербанить бюджетные деньги, а чиновники высокого ранга молчат. Где Федерация хоккея? Где Минспорта? Почему молчит президент страны, который неравнодушен к спорту и хоккею в частности?!

**Алексей МИХАЙЛОВИЧ, любитель хоккея, но, к сожалению, после проигрыша команде СКА со счетом 5:0 уже не болельщик «Динамо-Минск».**

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

# Ці не час развітацца з двухмоўем?

З вялікай зацікаўленасцю прачытаў на старонках “Народнай Волі” лісты Алены Сымановіч з Маладзечна і А.П.Старавойтава з Віцебска. Аўтары закранулі праблему, ад вырашэння якой залежыць лёс беларусаў. Афіцыйнае двухмоўе прэзідэнцкая вертыкаль увяла ў 1996 годзе, хоць такое практыкавалася і раней.

З сусветнай практыкі добра вядома, што ўсякае афіцыйнае двухмоўе – з’ява часовая, бо яно рана ці позна перарастае ў аднамоўе. Вось чаму ў многіх-многіх краінах нацыянальна-патрыятычныя сілы вядуць рашучую барацьбу супраць афіцыйнага двухмоўя. Там, дзе яны перамагаюць, пануе родная мова, народ застаецца самім сабой, уносіць неацэнны ўклад у культурную разнастайнасць сусветнай цывілізацыі.

Чаго ж чакаць нам, беларусам, ад афіцыйнага двухмоўя? Многія лічаць і не памыляюцца, што насоўваецца нацыянальная катастрофа. Аўтар гэтых радкоў стаіць на такіх жа пазіцыях і ў меру сваіх сіл і здольнасцяў змагаецца з праклятым злом.

Што ў выніку далейшага існавання афіцыйнага двухмоўя беларускую мову чакае поўная параза, пераканаўча сведчаць шматлікія факты. Узяць, да прыкладу, адну з самых важных нацыястваральных сфер – адукацыю. Там ужо амаль цалкам функцыянуе супярэчнае беларускаму нацыянальнаму інтарэсу рускае аднамоўе. Сваімі ўчэпістымі рукамі яно ўсё больш і больш душыць самыя прафесійныя пласты культуры. Сёння ў іх больш рускага, чым беларускага. Калі ва ўсіх народаў культура – нацыястваральная сфера, то ў нас яна выступае пераважна ў ролі русіфікатара.

А як афіцыйнае двухмоўе адарвала перыядычны друк ад нацыянальнай беларускай мовы! У большасці раённых і абласных газет беларуская мова прысутнічае толькі ў назвах і некаторых паведамленнях афіцыйнага характару.

Самае ж страшнае, што рускае аднамоўе запанавала ў палітычнай сферы, бо ад яе залежыць выкарыстанне той ці іншай мовы на ўсіх астатніх дзялянках грамадскай дзейнасці людзей. А што запанавала ў нас у гэтай сферы руская мова, бясспрэчная “заслуга” прэзідэнцкага кіраўніцтва краіны. Адной рукой яно зрабіла вялікую ласку Расіі і на першым часе мела за гэта ад апошняй немалыя эканамічныя выгоды, а другой нанесла смяротны ўдар па беларускай мове. Больш за чвэрць стагоддзя прэзідэнцкая вертыкаль разам з Нацыянальным Сходам РБ ні разочку не абмеркавала галечы стан беларускай мовы. Не абмеркавалі таму, што ў яе пагібелі бачыць здзяйсненне сваёй гістарычнай місіі. Адсюль зразумела эмацыянальная рэакцыя нацыянальна свядомых беларусаў на поўны заняпад іх роднай мовы як у афіцыйным жыцці, так і ў зносінах паміж людзьмі. З’яўленне на старонках газеты “Народная Воля” артыкула Алены Сымановіч “Газета – не змяя, у якой два языкі” – з’ява цалкам заканамерная.

Часта заўважаю, асабліва ў бібліятэках, што газету “Народная Воля” ахвотна чытаюць зусім не шараговыя людзі, сярод якіх, несумненна, ёсць і дзяржаўныя чыноўнікі. У нас яны звычайна рускамоўныя, як і сам галоўны палітычны лідар краіны. Ім беларускамоўныя тэксты ў цяжар. З такой катэгорыяй чыноўнікаў трэба на старонках “Народнай Волі” праводзіць лікбез па нацыянальна-культурных, моўных пытаннях толькі на рускай мове, бо беларускамоўныя матэрыялы яны свядома абмінаюць сваёй увагай.

А шаноўнай рэдакцыі “Народнай Волі” хачу даць наступную рэкамендацыю: каб ні ў адным з нумароў газеты рускамоўныя матэрыялы нават на адну літару не перасягалі беларускамоўныя.

Завяршу свой допіс вялікай падзякай Алене Сымановіч за яе мацярынскі клопат пра беларускую мову. Такой дачкой маюць права ганарыцца бацькі, якія выгадавалі сапраўдную нацыянальную патрыётку!

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

МНЕНИЕ

# Эти пороки – настоящее бедствие!

Наверное, настало время обществу в целом подсчитать фактическое воздействие на человека таких отрицательных факторов, как наркомания, курение, алкоголизм. Никто конкретно еще не занимался выводами и анализом гибели людей от этих пагубных привычек. Как, скажем, и от того же СПИДа. Все поверхностно знают, что от употребления наркотиков, передозировки гибнет много людей, в том числе интеллектуалов, независимо от их социального положения. К сожалению, никто не вникает в анализ того, какой огромный вред приносит обществу курение. К тому же это порождает множество неизлечимых заболеваний. А кто считал, сколько погибает ежегодно от курения в постели, которое приводит к пожарам?

Что касается злоупотребления алкоголем, то это не только подрыв здоровья, но и гибель людей в нетрезвом состоянии на производстве, в быту, на транспорте. А сколько рождается неполноценных детей в результате употребления родителями алкоголя! Кто считал потери производительности труда от употребления алкоголя на производстве – это также не может не волновать государство.

Считаю, что одними юридическими мерами нельзя справиться с этими страшными пороками. Нужно активизировать просветительскую работу. Надо по телевидению организовать курс лекций и воспитательных программ о вреде наркотиков, курения и алкоголя, подключить к этому все остальные средства массовой информации. Словом, уделить этой острой проблеме внимание на государственном уровне.

**Сергей Васильевич ПИСАРЕВ, пенсионер.**
*г.Солигорск.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Наталля ЭЙСМАНТ,
прэс-сакратар прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

# «Прыватны бізнес-самалёт Gulfstream G550 з бартавым нумарам EW-001PJ не мае ніякага дачынення да прэзідэнта»

Паводле інфармацыі тэлеграм-канала Nexta, у Лукашэнкі з'явіўся прыватны бізнес-джэт Gulfstream G550 з бартавым нумарам EW-001PJ. Са спасылкай на крыніцы ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск» блогер сцвярджае, што новы самалёт упершыню прыбыў у Мінск яшчэ ў другой палове верасня. Самалёт купіла прыватная аўстрыйская кампанія і перагнала яго ў Мінск.

Свой пакуль адзіны рэйс гэты самалёт з колерамі дзяржаўнага сцяга зрабіў у Варшаву. Кошт бізнес-самалёта, паводле каталога, складае 61,5 мільёна долараў, піша тэлеграм-канал.

«Ні асабістых, ні прыватных самалётаў у прэзідэнта Беларусі ніколі не было, няма і цяпер. І, хутчэй за ўсё, не будзе – зыходзячы з той цаны, якую вы назвалі», – сказала Наталля Эйсмант.




### «І сёння якраз стаіць пытанне, дзе знайсці сродкі на набыццё новага дзяржаўнага самалёта»

"Што тычыцца дзяржаўнага самалёта, якім цяпер карыстаецца падчас замежных візітаў кіраўнік дзяржавы, магу вас праінфармаваць: ён даўно выпрацаваў свой рэсурс, тэрміны эксплуатацыі выйшлі. І сёння якраз стаіць пытанне, дзе знайсці сродкі на набыццё новага дзяржаўнага самалёта. Але грошай на гэтыя мэты пакуль няма, хоць і прапановы ад авіякампаній паступалі.

І, дарэчы, яшчэ пра самалёт, які цяпер выкарыстоўваецца. Нагадаю, што на момант куплі ён ужо быў "былым у эксплуатацыі". Яго купілі ў прэзідэнта Туркменістана за паўцаны», – сказала Наталля Эйсмант.




### На чым лятаў Лукашэнка?

Самалёт, якім карыстаецца Лукашэнка ў замежных паездках, – Boeing 767, сапраўды купілены ў Туркменістане 7 гадоў таму. Ён належаў былому прэзідэнту гэтай краіны Сапармурату Ніязаву. Машыне ўжо 14 гадоў.

А вось верталёту, якім дагэтуль Аляксандр Лукашэнка карыстаўся найчасцей, ужо 23 гады – гэта верталёт Мі-172 (мадэрнізаваны Мі-8АМТ) з бартавым нумарам EW-002DA. Гэты верталёт быў адмыслова выраблены на Казанскім верталётным заводзе (Расія), 20 гадоў таму яго кошт быў каля 4 мільёнаў долараў.

Таксама Аляксандр Лукашэнка падчас свайго кіравання карыстаўся верталётам Мі-8 з бартавым нумарам EW-001DA і Mi-8 з бартавым нумарам EW-25049.

Да самалёта Boeing 767 Аляксандр Лукашэнка карыстаўся больш сціплай мадэллю – Boeing 737, а яшчэ раней – савецкім самалётам Ту-154 у VIP-кампаноўцы, які быў купілены новым у 1995 годзе. Гэты самалёт выстаўлялі на продаж.

*(Радыё Свабода.)*







АМБИЦИИ

Александр ЯРОШУК:

# «Жить надо красиво и легко!»

*На днях председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов Александр Ярошук опубликовал нестандартный снимок со шваброй в руках. И подписал его так: «Будущий президент моет полы в подъезде. Наведем порядок дома – наведем и в стране!» «Народная Воля» уточнила, действительно ли Ярошук идет в президенты.*

**– Александр Ильич, серьезно надумали баллотироваться?**

– Я вообще-то человек серьезный… Но мне присуще и чувство юмора, чем я очень дорожу.

**– И все-таки вопрос в лоб: идете или нет? Вы говорили недавно: «*Абсолютно реален тот вариант, что я приму положительное решение*». Так определились уже или нет?**

– Все может быть. Время еще позволяет немного подумать.

**– Когда-то мне в интервью вы говорили: «*Если соберусь в президенты, то можете быть уверены – выиграю! Поэтому больше не хожу. Я понимаю, что у меня остался только один патрон. И если стрелять – то уж наверняка*».**

– Да, всё верно. И патронов может быть еще много.

**– Под вашей фотографией немало комментариев. Одни, как, например, правозащитник Леонид Судаленко, сразу изъявили желание записаться к вам в команду волонтером, а другие мрачно пошутили: мол, на зоне навык мыть полы тоже пригодится…**

– Когда был на Окрестина, мои сокамерники, уголовники-рецидивисты, не дали мне взять в руки швабру. Сказали: мы сами будем драить. Но я вообще спокоен и не вижу для себя ничего позорного в том, чтобы вымыть пол, в том числе и в собственном подъезде, и если вдруг понадобится – то и в тюремной камере.

**– Надеюсь, до тюрьмы все-таки не дойдет… Но, возвращаясь к теме президентства: если пойдете на выборы, получается, будете конкурировать с единым кандидатом от оппозиции…**

– Для меня был приятный сюрприз, что оппозиция решила объединиться, я могу только приветствовать этот процесс.

Но, с другой стороны, понятно, что настоящего объединения не будет. Уже сегодня есть несколько фигур, которые не будут участвовать в этом процессе и пойдут на выборы самостоятельно. По каким причинам – это уже другой вопрос.

**– Это вы кого имеете в виду?**

– Например, Сергей Черечень заявил, что пойдет на выборы самостоятельно.

И Сергей Гайдукевич, думаю, тоже не будет ни с кем объединяться.

Будет представитель от кампании «Говори правду».

Вероятно, появятся и другие кандидатуры.

После визита господина Помпео в Минск очевидно, что власть будет стараться сделать настоящие альтернативные выборы. Цена вопроса слишком высока, поэтому выборы должны иметь более-менее демократичный вид. Насколько это, конечно, возможно в наших условиях. Сегодня непростые отношения с Россией, и у нас появились новые друзья – в лице США, Европейского Союза. Поэтому я не исключаю, что власть будет еще кого-нибудь подтягивать на выборы. А это значит, в любом случае серьезно будет девальвирована идея единого кандидата и объединения всех если не оппозиционных, то альтернативных сил. И я говорю об этом с огромным сожалением.

Если бы все действительно объединились, то были бы большие шансы на перемены.

**– А какого сигнала ждете лично вы, чтобы однозначно заявить: «да, я иду на выборы» или «нет, я не участвую в этом цирке»? Звезды должны как-то особенно сойтись? Или нет пока ясности с финансированием?**



– Хочу посмотреть, сможет ли единый кандидат действительно консолидировать подавляющее большинство демократических сил.

**– И, вероятно, важно, кто станет единым?**

– Я на этом не зацикливаюсь, как ничего не говорю и о процедуре выборов – устраивает она меня или нет.

**– Процедура, кстати, вызывает много вопросов. Для некоторых она как сложный лабиринт.**

– Конечно, вопросы есть. Но я сознательно ухожу от каких-либо оценок в силу того, что, с моей точки зрения, нужно строить свою линию поведения на максимальном позитиве. Важен сам по себе факт объединения и готовности объединяться.

Я внимательно слежу за развитием процесса. И буду принимать решение о своем участии в президентской кампании исходя из того, что будет на выходе. Но пока надо посмотреть на ситуацию.

**– Политолог Владимир Мацкевич сегодня очень жестко и недипломатично критикует всех, кто идет в президенты. Не боитесь, что и на вас обрушится огромный поток негатива, когда будет единый и вы заявите, что тоже идете в президенты? Это будет своего рода противостояние…**

– Политика – слишком легкомысленное занятие, чтобы относиться к нему слишком серьезно. И мне на самом деле жаль людей, которые дают какие-то зубодробительные оценки кому бы то ни было. Нельзя слишком серьезно относиться ни к власти, ни к политике.

А критика меня только раззадоривает. И я сам, когда меня поливают грязью, всегда стараюсь подлить масла в огонь.

Поэтому буду признателен за критику, это меня очень мотивирует!

**– Да, характер у вас – кремень.**

– Но при этом я сам никогда не вступаю в полемику с теми, кто совершает на меня какие-то нападки или оценивает мои поступки. Слишком много для них чести. И мне вообще жаль людей, которые слишком серьезно относятся к жизни, к политике, к себе, надувают щеки при любом удачном поводе. Так в один прекрасный момент можно вообразить себя Богом…

**– По вашей логике, и к президентским выборам не стоит относиться чересчур серьезно? Президенты все равно рано или поздно уходят, а жизнь продолжается…**

– Вредно для здоровья слишком серьезно относиться не только к президентским выборам, но и к жизни вообще.

**– Как говорили в одной интеллектуальной передаче, жизнь – игра…**

– Да. И играть нужно красиво. Поэтому я и опубликовал эту фотографию со шваброй. У кого есть чувство юмора – тот всё поймет.

Но не забывайте, что в каждой шутке есть доля правды…

**Марина КОКТЫШ.**

РЭЗАНАНС

# Каму не спіцца пасля візіту ў Беларусь дзяржсакратара ЗША?



Па слядах гістарычнага візіту ў Беларусь дзяржсакратара ЗША Майка Пампеа расійскія ананімныя тэлеграм-каналы пішуць пра нейкі «тайны ліст» ад Дональда Трампа Аляксандру Лукашэнку і абяцанні абараніць Мінск ад уплыву Крамля.

### Аналаг «дагавора» Ізраіля і Палесціны

Майк Пампеа перадаў Аляксандру Лукашэнку асабісты ліст ад Дональда Трампа, сцвярджае тэлеграм-канал «Беларуский инсайдер», які спецыялізуецца на «самых гарачых навінах знутры блізкага атачэння прэзідэнта Беларусі».

Паводле неназваных крыніц, у тым пасланні шэраг прапаноў Беларусі, супастаўных па рэзанансе з «вялікім дагаворам» Ізраіля і Палесціны.

### «Зняцце санкцый і дапамога ў правядзенні рэформ»

Тэлеграм-канал «Незыгарь» таксама сцвярджае, што абазнаны пра «сакрэтны пакет» з Вашынгтона. У прыватнасці, гаворыцца, што ЗША для абароны суверэнітэту Беларусі прапаноўваюць праладбіраваць уступленне краіны ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, NATO і Еўрасаюз на працягу трох гадоў, зняцце ўсіх санкцый, дапамогу ў правядзенні рэформ і крэдытную лінію на 25 мільярдаў долараў.

Пры гэтым Беларусі нібыта абяцана «захаванне суверэннасці», падтрымка на міжнародным узроўні з адначасовым зніжэннем удзелу Мінска ў праекце «Саюзная дзяржава» і Еўразійскім эканамічным саюзе.

### «Зрыў сцэнарыя трансферту ўлады ў Расіі»

Праўда, тэлеграм-канал «Тайная канцелярия» знянраўджвае высновы «Незыгаря» ў частцы важнасці Лукашэнкі для ЗША.

«Адзінае, навошта Лукашэнка цяпер патрэбны Трампу, дык гэта для зрыву сцэнарыя трансферту ўлады ў Расіі. Пампеа мог абяцаць што заўгодна Мінску, але ў выніку ўсе планы ЗША будуць рэалізоўвацца за кошт грамадзян Беларусі, як раней на Украіне. Дзіўна, як нашы эксперты не могуць параўнаць мадэлі экспансіі Захаду ва Украіне і ў Беларусі перад Еўрамайданам».

На гэтым этапе «тактыка Бабіча» *(былы амбасадар Расіі ў Беларусі, які рэалізоўваў жорсткую палітыку ў дачыненні да афіцыйнага Мінска. – РС)* цярпіць паразу без альтэрнатыўных варыянтаў ціску на Лукашэнку, што сведчыць пра недахопы эканамічнай мадэлі стрымлівання як фактару мяккай сілы Расіі, падсумоўвае аўтар.

### «Адзіная дзяржава-канфедэрацыя ад мора да мора»

Тэлеграм-канал «Трыкатаж» спасылаецца на «крыніцы» ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі, якія нібыта «чыталі ліст Трампа».

«У тым лісце, перададзеным прэзідэнту Лукашэнку дзяржсакратаром Пампеа, змяшчаецца ідэя "вялікага ўсходнееўрапейскага дагавора" – геапалітычнага аб'яднання прыбалтыйскіх рэспублік, Беларусі, Украіны і, магчыма, Польшчы ў адзіную саюзную дзяржаву-канфедэрацыю з адначасовым удзелам у Еўрасаюзе і NATO», – паведамляюць крыніцы рэсурсу.

### «Паэтапны дрэйф Мінска ў бок заходняй мадэлі»

«Калі мы не далучым Беларусь, за нас гэта зробяць салдаты NATO, – прагназуе "Мастер пера". – Замежныя партнёры заявіліся з палітычным, адміністрацыйным і фінансавым інструментарыем, а па сутнасці – з праектам, які прадугледжвае паэтапны дрэйф Мінска ў бок заходняй мадэлі развіцця».

Беларусь – гэта амаль Расія, хоць і ў своеасаблівым, самабытным варыянце, працягвае тэлеграм-канал. Пытанне ў тым, што супрацьлеглыя бакі прапануюць Беларусі – якую будучыню, эканоміку, унутраную палітыку са спісам свабод, абмежаванняў і каштоўнасцяў. У Расіі захоўваецца магчымасць інтэграцыі з Беларуссю. Але гэта будзе залежаць не ад келейных рашэнняў, а ад канкурэнтных пераваг. Прычым гэта павінны быць не прэферэнцыі на нафту і не зніжкі на газ, а перакананаўчыя праекты сумеснага раўнапраўнага развіцця, якія перабілі б намаганні апанентаў і заслужылі б давер большасці беларусаў, сцвярджае ананімны тэлеграм-канал.

### «Тэставы палігон для сыходу Лукашэнкі»

Лукашэнку «сыходзяць», развівае тэму «Бульба престолов».

«Саюз з Беларуссю як форма транзіту змяніўся на тэставы палігон. Але ўжо без Лукашэнкі. Будуць выбары. Новы прэзідэнт падпісвае пагадненне аб дарожных картах. Толькі ўжо крыху іншае – пераасэнсаванае з улікам рэформ у Расіі, бо шмат што мяняецца. А далей будзе адпрацоўваецца механізм зближэння, проста цяпер прыняць Беларусь у склад Расіі асобнымі рэгіёнамі – вельмі вялікі ўдар і адміністрацыйны, і фінансавы. Так што зближэнне на перыяд тры гады».

Тэлеграм-канал сцвярджае, што на працягу 5 гадоў пра Беларусь усе забудуцца і Штаты гэтаму ніяк не перашкодзяць.

### «Лічыць Лукашэнку сябрам могуць толькі наіўныя»

«Лічыць Лукашэнку сябрам Расіі могуць толькі вельмі наіўныя людзі», – лічыць тэлеграм-канал «Контора пишет».

«Нягледзячы на беспрэцэдэнтны ўзровень адкрытасці расійскіх спецслужб, што выяўляецца, у прыватнасці, у падрыхтоўцы беларускіх курсантаў у профільных ВНУ разам з расійцамі, а таксама ў арганізацыі навучання беларускіх афіцэраў самым сучасным расійскім тэхналогіям, "братушкі" пастаянна працуюць супраць Расіі».

Маркуючы па ўсім, «бацька» гэтым фактам проста ганарыцца, гаворыцца ў падсумаванні.

### «Тактычныя мэты Захаду і Расіі па Беларусі супадаюць»

Любая прапанова Захаду да Беларусі пачынаецца з нулявога пункта – свабодныя выбары з аднаўленнем граніцчага тэрміну знаходжання на пасадзе прэзідэнта і адпаведна без удзелу самога Лукашэнкі, сцвярджае тэлеграм-канал «Шулика».

«Такім чынам, Лукашэнка сваімі гульнямі загнаў сябе ў кут, а ў Расіі і Захаду тактычныя мэты ў сённяшняй Беларусі супадаюць. Выйсце ў яго адно – дамаўляцца з Крамлём пра транзіт улады і сыходзіць. Таму што калі ён будзе сыходзіць па дамоўленасцях з Захадам, то ў Растове яго не прымуць, а да кітайскай мяжы ён не дабяжыць», – падсумоўвае «Шулика».

Як кажуць, няма тае хусты, каб завязаць чужыя вусты. А Беларусі трэба глядзець у той бок, дзе цывілізацыя і дэмакратыя, а не ў той, адкуль патыхае імперскасцю.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 ЛЮТАГА 2020 г.

КІЕЎ–ТЭГЕРАН

## Іран прапанаваў па 80 тысяч долараў сем'ям украінцаў, якія загінулі ў збітым «Боінгу».

### *Зяленскі не пагадзіўся*

Іранскія ўлады прапанавалі заплаціць сем'ям украінцаў, якія загінулі пры катастрофе «Боінга» пад Тэгеранам, па 80 тысяч долараў, расказаў прэзідэнт Украіны Уладзімір Зяленскі ў інтэрв'ю «ТСН.Тиждень».

«Яны прапанавалі адразу 80 тысяч долараў кожнай сям'і кожнага загінуўшага, але мы на гэта не пагадзіліся. Мне здаецца, што гэта замала. Калі жонка загінуўшага кажа, што муж быў адзіным карміцелем, а ў яе няма працы, і дзіцяці трэба паступаць у інстытут, 80 тысяч долараў – гэта зусім мала», – сказаў Зяленскі.

Ён дадаў, што Украіна будзе дамагацца ад Ірана вялікіх кампенсацый праз міжнародныя суды, але не ўдакладніў сумы.

У СУСЕДЗЯЎ

## Палякі сказалі, каго лічаць найлепшым прэзідэнтам у гісторыі

Напярэдадні майскай выбарчай кампаніі палякаў спыталі, каго яны лічаць найлепшым прэзідэнтам краіны. Апытанне праводзіла агенцтва SW Research для "Рэчы Паспалітай".

Ад 1989 года ў Польшчы прэзідэнта абірае народ: кіраўнікамі краіны былі абраны Лех Валенса, Аляксандр Квасьнеўскі, Лех Качыньскі, Браніслаў Камароўскі і Анджэй Дуда. Войцэха Ярузэльскага абраў прэзідэнтам парламент.

На пытанне, які прэзідэнт быў найлепшым у гісторыі Трэцяй Рэчы Паспалітай, 37,6% адказалі, што Аляксандр Квасьнеўскі (1995–2005).

24% рэспандэнтаў лічаць цяперашняга прэзідэнта краіны Анджэя Дуду найлепшым кіраўніком.

Лех Качыньскі атрымаў 16% падтрымкі, Лех Валенса – 12,8%, Браніслаў Камароўскі – 9,6%.

У міжваеннай Польшчы прэзідэнтамі былі Габрыэль Нарутовіч (праўда, усяго пяць дзён), Станіслаў Вайцяхоўскі і Ігнацый Масціцкі, але іх абіраў парламент.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



## Белые и пушистые?

Есть в интернете такой телеграм-канал под странным названием «Бульба престолов». Судя по содержанию его материалов, создан этот канал какой-то группой россиян и призван комментировать борьбу Кремля и белорусских Дроздов. Вот как отреагировал он на состоявшийся первого февраля блиц-визит в Минск государственного секретаря Соединенных Штатов Америки Майка Помпео:

*«Сейчас Беларусь является территорией цивилизационного эксперимента, который заключается в смене идентичности с западнорусской на центральноевропейскую».*

А вот другая запись, но оттуда же:

*«Вчера это было «Беларусь в составе Советского Союза победила в Великой Отечественной войне».*

*Сегодня это «Беларусь у складзе Савецкага Саюза перамагла ў Вялікай Айчыннай вайне».*

*Завтра это будет «Bielaruś u skladzie Savieckaha Sajuza pieramahla ŭ Vialikaj Ajčynnaj vajnie».*

*Противостояние внешним врагам может стать частью национальной идеи, но не в виде конфликта 75-летней давности.*

*У России есть враги сегодня, сейчас это постсоветские республики, вытесняющие русский язык и культуру. Это Запад, включая ЕС, который поддерживает республики в их начинаниях.*

*Общее видение истории, не только ВОВ, возможно только при устранении элит республик и создании унитарного государства».*

Участившиеся визиты в Минск американских чиновников высокого уровня для анонимного, и абсолютно уверенного в своей безнаказанности, автора этих текстов – повод сформировать новый образ врага. Этим врагом является любая попытка противостоять российской идеологической экспансии. И любая попытка возрождения национальной белорусской культуры и языка. Нас здесь нет и не должно быть – как только мы появляемся, они, авторы «Бульбы престолов», сразу считают, что мы занимаем их место.

Тем более что белорусский язык им менее понятен, чем, скажем, принадлежащие к другим языковым группам китайский или хинди. Те можно выучить, а наш – зачем?

И это касается не только нас, белорусов. Обратили внимание на последний тезис: *«Общее видение истории, не только ВОВ, возможно только при устранении элит республик и создании унитарного государства»?* Это ведь не нам – не мне, не моему давнему оппоненту профессору Алесю Кравцевичу, не Михасю Скобле и не Павлу Северинцу адресовано. Это адресовано Александру Лукашенко. «Устранение элит республик» – речь идет об устранении правящей элиты, фактически – руководства страны, причем не только нашей. И уступка, скажем, в такой мелочи, как замена языка на рекламном бигборде на обочине проспекта Победителей в Минске (мол, замените, а то россиянин, едущий на машине, не понимает слово «хуткасць») – это не наша уступка, а их победа. А стало быть, поражение всей Беларуси – от политически индифферентных старушек в очереди к участковому врачу до бодро приветствующего госсекретаря США министра иностранных дел Беларуси.

Нельзя сказать, что белорусская власть не ищет противоядия. Ищет, как же без этого! И даже собственные телеграм-каналы создает. Вот, скажем, усердно раскручиваемый даже некоторыми независимыми медиа чисто белорусский по содержанию канал «Пул Первого». Он просто замечательно прокомментировал визит господина Помпео в Минск: разместил фотографию напитка, который употреблял госсекретарь США во время минских переговоров. Оказывается, диетическую «кока-колу»! Представляете, как важно знать это белорусским читателям! Это, по вашему мнению, эффективный механизм контрпропаганды? Российские «телеграмщики» буквально льют нам на голову «царскую водку» (если кто-то не помнит, это смесь соляной и азотной кислот), а мы разбавляем сей «напиток» российского изготовления диетической «кока-колой».

Нет, все правильно. Важно, чтобы российские империалисты знали: страшней белорусского языка ничего нет, а власть наша – белая и пушистая. И пропагандисты ее – белые и пушистые. Авось цена на нефть как-нибудь устаканится.

Не устаканится. По крайней мере пока элита не сменится. Но тогда поздно будет пить даже боржоми.

ПАДЗЕЯ

# Brexit і яго наступствы

### *Вялікабрытанія афіцыйна пакінула Еўрапейскі Саюз. З 1 лютага ў ЕС налічваецца 27 членаў.*




Henry Nicholls/ (Reuters)

### *Усё, што трэба ведаць пра выхад Вялікабрытаніі з Еўрасаюза*

Пра асноўныя дэталі Brexit, наступствы гэтага кроку, а таксама складанасці, якія ўзніклі да фармальнага выхаду.

### Што азначае слова Brexit?

Гэта абрэвіятура, якая абазначае выхад Вялікабрытаніі з Еўрасаюза: British exit – "брытанскі выхад".

Упершыню гэты выраз выкарысталі падчас выбараў у 2011 годзе. Яго аўтарам лічыцца Пітэр Уілдынг. Іронія лёсу ў тым, што ён кіраваў камандай экспертаў Influence, якая праводзіла кампанію на карысць далейшай прысутнасці Брытаніі ў Еўрасаюзе.

### Каму прыйшла ў галаву ідэя правесці рэферэндум аб выхадзе з ЕС?

Рэферэндум ініцыяваў былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі і былы лідар Кансерватыўнай партыі Дэвід Кэмеран. Упершыню ён анансаваў рэферэндум у 2013 годзе. Нюанс у тым, што сам ён не жадаў, каб краіна пакідала Еўрасаюз. Гэтай заявай палітык хацеў прымусіць Брусель пайсці на пэўныя саступкі Лондану. І ён іх дамогся. Але кампраміс, якога дасягнуў Кэмеран, не задаволіў нават членаў яго партыі.

У 2015 годзе Кэмерана зноў абралі прэм'ерам, і пачалася падрыхтоўка да рэферэндуму, але адначасова ён агітаваў за тое, каб застацца ў ЕС. Брытанскі прэм'ер спадзяваўся, што большасць брытанцаў прагаласуе супраць Brexit.

### Стоп! А навошта Кэмеран увогуле абяцаў рэферэндум, калі сам быў супраць?

Таму што ў Вялікабрытаніі заўсёды былі моцныя еўраскептычныя настроі, і іх вельмі часта выкарыстоўвалі ў палітыцы, асабліва падчас выбараў. Нават у Кансерватыўнай партыі, якую ўзначальваў Кэмеран, было два крылы – за і супраць ЕС.

Вялікабрытанія заўсёды адчувала сваю асобнасць ад кантынента.

Да Еўрасаюза яна далучылася ў 1973 годзе – найперш з эканамічных прычын. Адносіны Лондана і Бруселя ніколі не былі ідэальныя. Ужо праз 2,5 года пасля далучэння там адбыўся першы рэферэндум, які мог прывесці да Brexit. Але тады за тое, каб застацца, прагаласавала амаль удвая больш, чым за выхад.

Што праўда, ЕС у той час быў інакшым – больш эканамічным – утварэннем.

### А што канкрэтна не падабалася брытанцам у арганізацыі, куды стаіць чарга краін?

Прыхільнікі выхаду сцвярджалі, што брытанцы атрымліваюць ад ЕС менш, чым у яго ўкладваюць. Называлася сума ў 350 мільёнаў фунтаў, якія краіна нібыта штотыдзень аддае Еўрасаюзу. Іншым аргументам на карысць выхаду было жаданне зменшыць міграцыю. Апрача таго, пакінуўшы Еўрасаюз, Брытанія адмовілася б ад лімітаў гадзін працы цягам тыдня і пазбягала б выдаткаў, звязаных з выкідамі вуглякіслага газу брытанскімі кампаніямі.

Вельмі важным аргументам прыхільнікаў Brexit было тое, што, пакінуўшы Еўрасаюз, краіна не будзе больш вымушана падпарадкоўвацца рашэнням з Бруселя, з якімі Лондан часта не хацеў пагаджацца.

### Дык а што не так з аргументамі прыхільнікаў Brexit?

Возьмем, напрыклад, згаданыя 350 мільёнаў фунтаў. Адэпты Brexit сцвярджалі, што пасля выхаду гэтую суму можна будзе прызначыць на службу аховы здароўя.

Па-першае, эксперты крытыкавалі само існаванне такой сумы, якая невядома як была падлічана.

Па-другое, брытанскае Міністэрства фінансаў тлумачыла, што выхад з ЕС не будзе азначаць пераносу нейкіх сродкаў на службу аховы здароўя і што наступствы выхаду краіны з ЕС для фінансавай сітуацыі будуць цяжкія.

### А што казалі пра наступствы выхаду эканамісты?

Эксперты Міжнароднага валютнага фонду, Канфедэрацыі брытанскай індустрыі, Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця ў адзін голас падкрэслівалі, што Brexit прывядзе да запаволення эканомікі, росту беспрацоўя, што фунт патаннее, а брытанскія кампаніі страцяць падтрымку з-за мяжы.

Урад анансаваў рост падаткаў, скарачэнні ў сістэмах адукацыі, аховы здароўя і абароны. Цэнтральны банк Англіі пагражаў рэцэсіяй.

### Якую пазіцыю заняла апазіцыя?

У Брытаніі апошнія гады кіруюць кансерватары. А галоўная апазіцыйная сіла – Партыя працы. Яе членаў называюць лейбарыстамі. Сярод іх таксама хапае прыхільнікаў Brexit, але агулам лінія партыі – праеўрапейская. Аднак у кампаніі іх голас быў слабы і вельмі часта супярэчлівы. Эксперты назвалі іх кампанію неэфектыўнай.

Супраць Brexit таксама выступаюць ліберальныя дэмакраты.

### Як прагаласавалі брытанцы?

Сацыялагічныя даследаванні напярэдадні галасавання давалі сціплую перавагу праціўнікам Brexit.

Рэферэндум адбыўся 23 чэрвеня 2016 года. У ім бралі ўдзел 72,2% брытанцаў, якія мелі права голасу. За выхад з Еўрасаюза прагаласавалі 51,89%.

Улады маглі праігнараваць рэферэндум, не парушыўшы ніякага закона. Але было прынята рашэнне паважаць волю большасці і пакінуць ЕС.

### А ці праўда, што праз 3 гады пасля рэферэндуму большасць брытанцаў супраць Brexit?

На пачатку кастрычніка мінулага года газета The Independent апублікавала даследаванне аналітыкаў Focaldt, якое было заснавана на апытаннях грамадскай думкі, праведзеных YouGov, у якіх бралі ўдзел 15 тысяч чалавек. Аналітыкі прыйшлі да высновы, што сваю думку наконт ЕС змянілі амаль 15% брытанцаў, якія ў 2016 годзе галасавалі за выхад (2,6 млн з 17,4 млн). Змена сярод прыхільнікаў ЕС на карысць Brexit – каля мільёна.

Выснова ўсяго даследавання наступная: калі б рэферэндум прайшоў сёння, то за тое, каб застацца ў ЕС, прагаласавалі б 55%, а за Brexit – 45%.

### Як адбілася мітусня вакол Brexit на эканоміцы Вялікабрытаніі?

Паводле справаздачы Цэнтра еўрапейскіх рэформаў, Brexit ужо каштаваў эканоміцы вострава 70 мільярдаў фунтаў. У сярэднім кожны брытанец ужо заплаціў за выхад краіны з ЕС па 840 фунтаў у год. Брытанскі фунт ніколі не быў такі танны за апошнія 30 гадоў.

Згаданы даследчы цэнтр падлічыў, што, калі нават брытанскаму боку ўдасца неўзабаве падпісаць дамову з ЕС, жыхары вострава яшчэ доўга будуць вымушаныя плаціць за выхад з Еўрасаюза няўпэўненасцю і хаосам. За тры гады ад рэферэндуму брытанская эканоміка аслабла на 2,9%. Эксперты перакананы, што нават калі краіне ўдасца за некалькі гадоў выйсці з Еўрасаюза, то тэма Brexit яшчэ дзесяцігоддзямі будзе дамінаваць у палітыцы краіны.

### Што зменіцца для брытанцаў з 1 лютага

#### Падарожжы

Для грамадзян Еўрасаюза для ўезду ў Вялікбрытанію не спатрэбяцца візы – ні брытанцам у Еўрасаюз, ні грамадзянам гэтых краін. Да канца 2020 года ў аэрапортах і на наземных пунктах пропуску будзе дзейнічаць «пераходны перыяд».

Пры гэтым ад 31 студзеня пачынае дзейнічаць пашпартны кантроль. Грамадзяне Вялікабрытаніі павінны мець пашпарт, які дзейнічае мінімум 6 месяцаў з моманту заканчэння паездкі. Такія ж правілы будуць дзейнічаць і для грамадзян ЕС.

Правілы ўезду адносна пашпарта і пашпартнага кантролю ад лютага пачнуць дзейнічаць не толькі ў аэрапортах, але і пры паездках на цягніках «Еўрастар», паромах або аўтобусах.

Для беларусаў па-ранейшаму патрэбны брытанскія візы.

#### Пастаяннае пражыванне

З правам пастаяннага пражывання грамадзян ЕС у Вялікабрытаніі і наадварот пытанне не вырашана. Пазіцыя бакоў такая, што пасля заканчэння пераходнага перыяду брытанцы павінны будуць рэгістравацца па месцы жыхарства, і такое ж правіла будзе дзейнічаць у адносінах да жыхароў ЕС у Вялікабрытаніі. Цяпер такая рэгістрацыя не патрабуецца.

Больш за тое, па заканчэнні вызначанага часу (трох ці шасці месяцаў) яны як замежнікі павінны будуць падаваць заяву ў міграцыйную паліцыю на прадастаўленне ім віду на жыхарства – гэтак жа, як робяць грамадзяне ўсіх астатніх краін.

Выключэнні, хутчэй за ўсё, застануцца для студэнтаў, якім захаваюць свабоду навучання ў ВНУ, а таксама сужэнцаў і іншых сямейнікаў: яны не павінны будуць рэгістравацца ці атрымліваць від на жыхарства.

#### Праца

Паводле дзейных нормаў, грамадзяне краін ЕС маюць права на працу ў Вялікай Брытаніі. Пасля пашырэння Еўрасаюза гэта прывяло да масавага прытоку ў краіну таннай працоўнай сілы з Польшчы, Літвы, Румыніі ды іншых краін усходу Еўропы. Такое правіла працягне дзейнічаць на пераходны перыяд. Але што будзе далей – невядома, асобнае пагадненне пакуль не падпісана.

Лондан замест прыцягнення работнікаў з усходу абяцае ўкараніць сістэму паскоранага атрымання рабочых віз паводле «бальнага прынцыпу» для жыхароў усіх краін без пераваг для жыхароў еўрапейскіх краін. Гэта азначае, што прыярытэтнае права на працу будзе мець не ўладальнік пашпарта ЕС, а тыя, хто мае значную для Вялікабрытаніі спецыяльнасць.

Хутчэй за ўсё, пасля заканчэння пераходнага перыяду грамадзяне ЕС працягнуць працаваць на сваіх пазіцыях – гэтак жа, як грамадзяне Вялікабрытаніі ў краінах ЕС. Але брытанскія ўлады прагназуюць, што прыток новых работнікаў з ЕС пасля Брэксіту знізіцца на парадак: з цяперашніх 200 тысяч штогод да 20 тысяч.

#### Медыцынскія страхоўкі

У гэтай галіне да канца 2020 года таксама будзе дзейнічаць пераходны перыяд. Усе медыцынскія страхоўкі, аформленыя ў Еўрасаюзе, будуць дзейнічаць у Вялікабрытаніі (і наадварот). Калі з іх уладальнікамі нешта здарыцца на тэрыторыі чужой краіны, ім бясплатна акажуць медыцынскую дапамогу.

Што будзе пасля, асабліва ў выпадку хранічных захворванняў, мусіць адрэгуляваць адмысловае пагадненне, перамовы па якім пачнуцца ў лютым. Для Вялікабрытаніі гэта пытанне з'яўляецца прынцыповым, бо брытанская сістэма медабслугоўвання на сёння бясплатная для пацыентаў, у тым ліку для грамадзян Еўрасаюза.

### Брытанскія еўрадэпутаты

31 студзеня ўсе 73 еўрадэпутаты ад Вялікабрытаніі былі адпраўлены з Бруселя на радзіму. Напярэдадні быў апошні дзень іх працы, некаторыя брытанскія абраннікі плакалі, пакідаючы Еўрапарламент.

Пры гэтым на пераходны перыяд, да канца 2020 года, Вялікабрытанія ўсё роўна будзе жыць па законах Еўрасаюза. Але пісаць іх будуць толькі тыя, хто мае права голасу ў ЕС.

### Гандлёвыя пытанні

Акрамя ўжо згаданых пагадненняў Лондан і Брусель цягам гэтага года мусяць паразумецца па шэрагу важных гандлёвых пытанняў.

- **Рыбалоўства.** Рыбакі з ЕС патрабуюць права лавіць рыбу і малюскаў у брытанскіх тэрытарыяльных водах, як і раней. Брытанцы лічаць, што гэта права варта абмежаваць.
- **Роўмінг.** Не вядома, ці будзе захавана пагадненне аб адзіных тарыфах на сувязь пры паездках еўрапейцаў у Вялікабрытанію і наадварот.
- **Паліцыя.** Праца паліцыі на тэрыторыі суседняй дзяржавы і сумесныя расследаванні могуць быць спынены.

*(Радыё Свабода.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
4 ЛЮТАГА 2020 г.

ПАМЯТЬ

# Главный рыцарь белорусского театра

(Начало на 1-й стр.)

**– Борис Иванович, когда вы познакомились с Ростиславом Ивановичем лично? Вы ведь младше его, пришли в театр, когда Янковский уже работал на сцене и имел даже звание народного артиста Белорусской ССР, верно?**

– Познакомились, когда я еще был студентом Театрально-художественного института (сейчас Академия художеств). Конечно, я, как и положено студенту, ходил на все спектакли, в том числе в Русском театре, и скажу, что ничего более совершенного, чем дуэт Александры Климовой и Ростислава Янковского в спектакле «Двое на качелях», до той поры не видел. Мой молодой скептицизм по поводу актеров со званиями был начисто развален актерским талантом этих выдающихся профессионалов. Я попросил о встрече, Ростислав Иванович не отказал, так мы и познакомились. Это были 1960-е годы. А работать в Театр имени Горького в качестве главного режиссера я пришел значительно позже.

**– И как складывались тогда ваши отношения: великий Янковский умел подчиняться в общем-то еще довольно молодому режиссеру?**

– И в этом была его большая заслуга! Да, иногда наши споры доходили до того, что он кричал на меня, я кричал на него. Кончалось тем, что я уходил в кабинет. Но через некоторое время Янковский приходил и говорил: «Извини. Давай попробуем так, как ты предлагаешь». Он доверял мне как режиссеру. Хотя, несомненно, и сам был режиссером, выстраивая свою роль. Вообще, с Ростиславом Ивановичем работать было ответственно. Мы часто подолгу говорили с ним по телефону, рассуждая о творчестве. Но если я с ним не соглашался, то он яростно отстаивал свою правоту. Стоило мне вставить хоть один контраргумент, как слышал темпераментный возглас: «Ты мне слова не даешь сказать!»

**– Ему тоже было с вами непросто…**

– В конце концов всегда находили общий язык. Как говорил Товстоногов: надо иногда делать вид, что подчиняешься актеру, чтобы вывести его на новый уровень. В общем, все по согласию. Я пытался найти к нему ключик. Что это значит? Открыть его сердце. Делая замечания на репетиции, я с молодой горячностью, которой теперь, по правде, даже стыжусь, мог кричать мастеру: «Так плохо и в провинции не играют!» Конечно, получал в ответ язвительное: «Никудышный режиссер из Пришибеевки!» Мы разбегались в разные стороны, но через короткое время большой артист признавал: «Пожалуй, ты прав! Я готов идти за тобой».

**– Ростислав Иванович сыграл 160 ведущих ролей в театре. Это невообразимо много! Как он смог это сделать?**

– Он был необычайно, одержимо работоспособен. Знаете, шел, как мощная машина, преодолевал препятствия. Помню, на первой же репетиции спектакля «Перед заходом солнца» знал почти весь свой текст наизусть. Правда, у нас тогда тут же пошли расхождения, потому что он стал произносить свою роль с уже знакомой всем интонацией. А мне всегда хотелось достать из него еще никому не известного Янковского. Тем более в этой пьесе пожилой мужчина испытывает большое романтическое чувство к молодой девушке.



**– А как вы думаете, мужская натура Ростислава Ивановича могла подвести его к такой нестандартной ситуации? Ведь он был очень красивый мужчина до самых преклонных лет.**

– Наверное, Ростислав Иванович смотрел на девушек. Но! Любил и хвалил он только свою Нину Давидовну. Нина – это его вечное удивление: женщина всех времен и народов. Он часто повторял: «Я люблю всё красивое». На свадьбе нашего сына Ивана он, например, вдруг спросил: «Правда, что моя Нина красавица?» И ответ ему был совершенно не важен…

**– Действительно, его семейная жизнь – это уникальный пример красивых отношений между мужчиной и женщиной. Кстати, вы, Борис Иванович, также сохранили свой единственный брак.**

– Я считаю, мы с Янковским поступили правильно – как бы трудно иногда ни было. Ростислав Иванович свою Нину просто обожал! У него до последних лет был в этом чувстве, как у Ромео, настоящий полет.

**– Даже слушать об этом и то удовольствие! А вот не могу не спросить: почему в театре случился этот странный затяжной и всем известный конфликт двух народных артистов – Янковского и Климовой? Отчего такое обидное непонимание друг друга?**

– Дело вот в чем... Александра Климова – великая актриса, что и говорить. И она пыталась все подчинить себе. Янковский сопротивлялся – и имел на это полное право! Когда, например, я поставил «Макбета», где главную роль играл Янковский, Климова очень обиделась на меня: почему-де, спектакль называется не «Леди Макбет»?

**– Она в этом усмотрела дискриминацию?**

– Пожалуй… Но исполняла свою роль прекрасно! Мой спектакль «Макбет» был не про женщину-убийцу леди Макбет, а про желание власти, которое в конечном счете убивает человеческое в человеке, потому что в результате меняет его внутреннюю структуру. Что и случилось с леди Макбет: она перестала быть женщиной, отреклась от своей сути.

**– А как вы чувствовали себя между этих двух не просто огней – настоящих салютов, фейерверков эмоций? Да еще и со званиями народных артистов...**

– Ну, они же не были фанатиками, они были… настоящими артистами! Их можно было переубедить. Знаменитые чаши с водой на сцене, которые впоследствии стали необходимым символом очищения в спектакле «Макбет», возникли почти в шутку, как производственная необходимость. Когда Ростислав Иванович, например, терял нужную интонацию и возмущался, я охлаждал его пыл водой из этих чаш. Он только покачивал головой, отряхиваясь, и с вызовом говорил: «Спасибо, мне все понятно».

**– А вот про власть. Актер такого уровня, как Янковский, тоже ведь прошел испытание властью. Сколько правительственных наград, какие высокие звания – народный, лауреат, медали, премии… Одних орденов только шесть штук! И главное – настоящее обожание зрителей. Его это изменило, как вы считаете?**

– Актерская власть над зрителем – она другого порядка, ведь Янковский вначале создавал шедевры, а потом был увенчан наградами. Например, спектакль «Макбет». Он вызвал восторг зрителей и критики, и после гастролей «Макбета» в Москве Янковский получил звание народного артиста СССР. Я же стал пожизненно режиссером «того самого «Макбета» – спектакля, который помнят до сих пор и в нашей стране, и в близком и дальнем зарубежье. И такая визитная карточка делает мне честь.

**– Вы дружили семьями? Или не сближались, оставаясь в рамках «режиссер – ведущий актер»?**

– Мы дружили… Великолепные вечера в доме Янковских вспоминаю просто с нежностью: Нина Давидовна умела блеснуть остроумием, а уж как привечала гостей!.. Какое грузинское обилие было на столе!.. Да, именно она в доме была главной, именно она сумела в любви и уважении воспитать трех настоящих мужчин: сыновей Игоря и Володю и беспокойного и неугомонного Ростика, как ласково Нина Давидовна называла Ростислава Ивановича. И Олега Янковского она также считала членом своей семьи, он рос в юности вместе с ними и окончил среднюю школу в Минске.

**– Как Ростислав Иванович воспринял новое время: перестройку, последовавший за ней суверенитет республики? Это очень важные события, но театр и вся культура именно в это время оказались на грани развала, на обочине финансирования и общественного внимания.**

– Конечно, великий актер приветствовал свободу, либерализм, но переживал за культуру. Как же так: театр при демократии должен процветать, а все неожиданно чуть ли не идет ко дну… Кстати, у Янковского была одна черта, дай Бог каждому: он использовал свое немалое влияние в верхах, чтобы помочь товарищам с квартирами и вообще решить какие-то их материальные вопросы. Его в театре многие актеры называли чуть ли не папой. Но и побаивались: он мог высказать свое мнение о плохой работе актера – и тогда ой-ой!..

**– Вам нравится памятник Ростиславу Ивановичу в костюме Радзивилла, который установлен на Московском мемориальном кладбище? Мне кажется, этим образом аристократа авторы немного сузили огромное актерское дарование Янковского. Как считаете?**

– Дело в том, что Янковский был аристократом не только на сцене, но и в жизни. Если он шел, на него нельзя было не обратить внимания: он заполнял собой пространство, на него все оборачивались: «А! Это он!» Так что в памятнике есть не только Пане Коханку, но и сам Янковский. Он настоящий рыцарь театра. Бог наградил его огромным талантом. Он выходил на сцену и, не произнеся еще ни единого слова, захватывал зрителей своим магнетизмом, энергетикой. Я благодарен судьбе, что она подарила мне встречу с таким великим актером! А наш последний спектакль «Вечность на двоих», который он исполнял в дуэте с народной артисткой Беларуси Беллой Масумян, оставил в моей душе вечное ноющее чувство непреходящей любви: отчего жизнь так скоротечна?..

**Елена МОЛОЧКО.**

СЛЫШАЛИ?

# По делу об отмывании 50 миллионов евро задержали экс-главу представительства ABLV в Беларуси

Правоохранительные органы задержали бывшего главу представительства ABLV в Беларуси Евгения Терехина по делу об отмывании 50 миллионов евро. Об этом сообщает Delfi.lv со ссылкой на Государственное телевидение Латвии.

По информации латвийского телевидения, речь идет о Евгении Терехине, который почти 15 лет возглавлял представительство ABLV в Беларуси.

На территории какой страны прошли задержания – не уточняется, но предварительное расследование ведут латвийские и белорусские следователи.

На прошлой неделе в офисе латвийского ABLV Bank провели обыски в связи с уголовным делом о легализации 50 млн евро. Подозреваемыми признаны 12 человек, трое из них арестованы.

В материалах уголовного дела речь идет о том, что организованная группа, в которую входили представители нескольких государств, с 2015-го по 2018 год отмывала крупные суммы денег, фигурирует сумма более 50 миллионов евро.

Напомним, в 2018 году Европейский центробанк принял решение о ликвидации ABLV Bank. В Беларуси латышский банк был весьма активен. Как сообщили в Нацбанке, было два периода, когда у нас действовали его представительства, в 2006–2009 годах как представительство Aizkraukles banka, в 2011–2013 годах уже под новым названием банка ABLV. Данные о количестве разрешений, выданных гражданам Беларуси на открытие счетов в этом банке, регулятор не разглашает.

КАДРЫ

## Вячаслаў ХАРАНЕКА – генеральны дырэктар Нацыянальнага аэрапорта "Мінск"

Учора ў яго быў першы рабочы дзень на новай пасадзе. Да гэтага ён працаваў намеснікам гендырэктара аэрапорта па тэхнічным развіцці, а некалі ўзначальваў калектыў аэрапорта "Мінск-1".

ЗДАРЭННІ

## Прыехаў!

У Мінску 27-гадовы мужчына ўрэзаўся на каршэрынгавым «Фальксвагене Пола» ў «Хонду», якая стаяла на абочыне, а потым пратараніў бардзюр і асвятляльную мачту.

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік МУС Вольга Чамаданава, у крыві вадзіцеля было выяўлена 1,8 праміле алкаголю. Паводле яго слоў, напярэдадні ён выпіў каля 2 літраў піва.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ЛІЧБЫ

## Хто працуе ў Беларусі?

Найбольш працоўных мігрантаў прыязджае ў Беларусь з Расіі. Гэта 6,7 тысячы чалавек з 20,8 тысячы замежнікаў. Паводле звестак МУС, амаль кожны пяты працаўладкаваны ў Беларусі замежнік – кітаец (4,3 тысячы). На трэцім месцы ўкраінцы, якіх летась прыехала на працу каля 3,1 тысячы чалавек.

Сярод двух дзясяткаў тысяч працоўных мігрантаў больш за 3 тысячы – кваліфікаваныя працаўнікі і спецыялісты, больш за 5 тысяч маюць рабочыя спецыяльнасці. У сельскай гаспадарцы працуюць крыху больш за 400 замежнікаў.

СТАЛІЦА

## Паляванне на «зайцоў» працягнецца

У аўтобусах Мінска кампосцеры і валідатары будуць блакіраваць пасля таго, як транспарт ад'едзе ад прыпынку.

Намеснік гендырэктара "Мінсктранса" **Віктар Тозік паведаміў** TUT.by, што працаваць новаўвядзенне будзе так: *"Вадзіцель глядзіць у люстэрка, націскае кнопку, што дзверы зачыняюцца, пачынае ехаць. Пасля пачатку руху, секунд праз 15, сістэма будзе блакіравацца"*.

Абвесткі пра гэта ўжо гучаць у салонах сталічных аўтобусаў, хаця новая норма пакуль не ўжываецца.

ФУТБОЛ

## Калі пройдуць фіналы?

Учора выканкам Беларускай федэрацыі футбола зацвердзіў даты і месца правядзення матча за Суперкубак і фіналу Кубка Беларусі.

Як паведамляе прэс-служба федэрацыі, брэсцкае «Дынама» і «Шахцёр» разыграюць Суперкубак 4 сакавіка на стадыёне ФК «Мінск». 1 красавіка на гэтай жа арэне пройдзе матч за жаночы Суперкубак паміж «Зоркай-БДУ» і клубам «Мінск».

Фінал Кубка Беларусі пройдзе 24 мая на сталічным стадыёне «Дынама».

**Віктар ШПАК.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Хто госць, а хто гаспадар?

Ганаровай госцяй штогадовага Міжнароднага мінскага кніжнага кірмашу сёлета стала Расійская Федэрацыя. А значыць – цэнтральныя пляцоўкі цеснаватага для такога шматлюднага мерапрыемства сталічнага выставачнага цэнтра занялі расійскія выдавецтвы, ім аддадзены найбольшыя плошчы, найперш ім – увага і клопат арганізатараў. Пабывалі раней ганаровымі гасцямі і Украіна, і Германія, і Польшча – хай і Расія пабудзе. І хлеба-солі на вышываным ручніку для маскоўскіх і пецярбургскіх кнігавыдаўцоў мне не шкада. Каб не адно але…

Справа ў тым, што расійскія выдаўцы ў Беларусі ганаровымі гасцямі з'яўляюцца не толькі тры дні на пачатку лютага, а – круглы год. Дастаткова зазірнуць у любую сталічную кнігарню, каб пераканацца ў гэтым. І неістотна, ці гэта дзяржаўная "Белкніга", ці недзяржаўная сетка "ОЗ", якая апошнім часам імкліва пашыраецца (у Мінску "озаўскіх" кнігарняў ужо каля двух дзясяткаў). Паўсюль і колькасна, і па коштах расійская кніга ўпэўнена адсоўвае ўбок кнігу беларускую.

Зойдзем, напрыклад, у мінскую кнігарню "Светач". Пасля нядаўняй рэканструкцыі яна набыла ўтульны выгляд, даўжэзныя кніжныя паліцы выгнутыя падковамі. Пакуль пройдзеш з канца ў канец – ажно галава злёгку закружыцца. Але кружыцца яна таксама і ад коштаў. Беларуская кніга стала яўна не па кішэні ні студэнтам, ні пенсіянерам, ні іншым маламаёмасным грамадзянам.

Мяркуйце самі: новае выданне рамана Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" каштуе ажно 56 рублёў, трылогія Якуба Коласа "На ростанях" – 30, "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча – 40, чатырохтомнік Янкі Брыля – ажно 140, да збору твораў таго ж Караткевіча таксама не падступіцца, тамы – па 25–30 рублёў. Нядаўна выдадзеная "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці" вабіць вока сваёй паліграфіяй, але адштурхоўвае цаной – 110 рублёў. Сімпатычная з выгляду серыя "100 вершаў" таксама з "куслівым" коштам: том Ніла Гілевіча – 20 рублёў, Генадзя Бураўкіна – 24, Яўгеніі Янішчыц – 25 рублёў. Не прывабяць пакупнікоў цэтлікамі і пераклады на беларускую мову замежных класікаў: кнігі Баляслава Пруса, Габрыэля Гарсія Маркеса і Жазэ Сарэмагу каштуюць па 25 рублёў, Чынгіза Айтматава – 27, нобелеўскага лаўрэата Архана Памука – 30 рублёў.

А поруч – паліцы з прадукцыяй расійскіх выдавецтваў. Бяру ў рукі адну кнігу, другую і – не веру сваім вачам. Тамы Льва Талстога, Булгакава, Салжаніцына, Дзюма, Кафкі, Оруэла, Рэмарка, Уайльда, Экзюперы – ад 4 да 5 рублёў! Розніца – у пяць-шэсць разоў! Скажыце, якое беларускае выдавецтва вытрымае такую канкурэнцыю і не збанкрутуе?

Цэнавае нераўнапраўе асабліва кідаецца ў вочы ў дзіцячым аддзеле. "Беларускія казкі" (без ілюстрацый!) каштуюць 21 рубель, а "Русские народные сказки" (шыкоўна ілюстраваныя) – усяго 7 рублёў. Папулярны ва ўсе часы "Малы і Карлсан" па-беларуску – 16 рублёў, а па-руску – 9. Кнігі нашых дзіцячых класікаў Пятра Васючэнкі і Уладзіміра Ягоўдзіка – па 25 рублёў, а прывезеныя з Масквы і Тулы (усе ў золаце!) кнігі Карнея Чукоўскага і Сяргея Міхалкова – ад 5 да 7 рублёў. Дарэчы, па колькасці выданняў гэтыя два расійскія аўтары ўсіх беларускіх пакідаюць далёка ззаду: першы прадстаўлены 28 кнігамі, другі – 32-ма.

Ажно сумненне закралася: дзе я знаходжуся – у маскоўскім "Глобусе" на Лубянцы ці ў мінскім "Светачы"?

Засмучаны гэткім неканкурэнтаздольным становішчам айчыннай кнігі на ўласным кніжным рынку, я зайшоў у кнігарню "ОЗ", што месціцца на тым жа праспекце Пераможцаў. Агледзеўшы дзве прасторныя залы, я нарэшце адшукаў беларускі аддзел з… адной няпоўнай паліцы пры самай падлозе, на якой сіратліва стаялі 6 (шэсць!) кніг на беларускай мове, да якіх тулілася выдадзенае ў Маскве пяцікніжжа Святланы Алексіевіч.

Амаль у роспачы я кінуўся да магазіннага камп'ютара і набраў у пошукавіку прозвішча "Быкаў". На экране замільгацелі вокладкі незлічоных выданняў маскоўскага літаратара Дзмітрыя Быкава. Я набраў прозвішча "Багдановіч" – камп'ютар чамусьці прапанаваў мне ў шырокім асартыменце канапы "Богдан"…

Ветлівы намеснік адміністратара кнігарні Артур Гурын патлумачыў мне, што ў іхнім камп'ютары няма беларускай мовы і "пасяліць" яе туды ён не бачыць сэнсу. Ну, раз беларуская літаратура ў іхняй кнігарні амаль не прысутнічае.

Скажыце, калі гэта не дыскрымінацыя беларускай мовы і літаратуры, то – што? Сваё пытанне я адрасую ўладальніку кнігарні беларускаму прадпрымальніку Дзянісу Ткачову і міністру інфармацыі Аляксандру Карлюкевічу, які падпісаў ліцэнзію на гэткі дзіўны кнігагандаль і які на адкрыцці Мінскага кніжнага кірмашу радасна абвясціў расійскую кнігу ганаровай госцяй.

Насамрэч яна даўно пачуваецца паўнапраўнай гаспадыняй у нашых кнігарнях. А кніга беларуская туліцца па закутках, як запрошаная з вялікай ласкі госця. І пакуль яны не памяняюцца ролямі, пад незалежнасцю Беларусі будзе ляжаць прытоеная бомба, якая ў патрэбны час спрацуе...

НУ І НУ!

## Зубры пад Гродна

Шматлікі статак зуброў быў заўважаны ўчора ў полі паміж вёскамі Багушоўка і Агароднікі Гродзенскага раёна.

Жывёл, хутчэй за ўсё, прыцягнулі сакавітыя азімыя, якімі яны вырашылі паласавацца. Статак у больш як 50 галоў – гэта зубры азёрскай мікрапапуляцыі. Жывёл пачалі гадаваць у 1998 годзе ў СВК "Азёры" Гродзенскага раёна, і сёння іх налічваецца больш за трыста галоў.

Мясцовыя жыхары кажуць, што такога шматлікага статку бачыць яшчэ не даводзілася.



